PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (2181) Год XLIII Беласток 1 сакавіка 1998 г. Цана 1 зл.

## Ці стане пушча запаведнікам?

**З Анатолем ПАЎЛОЎСКІМ, войтам прыпушчанскай гміны Дубічы-Царкоўныя, гутарыць Аляксей МАРОЗ.**



*—10 лютага г.г. у Адукацыйным асяродку ў Белавежы адбылася сустрэча Януша Радзяеўскага, намесніка міністра аховы асяроддзя з войтамі, бурмістрамі і прадстаўнікамі самаўрадаў, у якой Вы прынялі ўдзел. Пра што гаварылася?*

— Размовы тычыліся прапановы пашырэння запаведніка на ўсю Белавежскую пушчу. У Белавежу прыехалі дзеячы Таварыства аховы Белавежскай пушчы і розных іншых экалагічных арганізацый, якія падрыхтавалі ўжо адпаведнае пагадненне. Патрэбна была толькі згода прадстаўнікоў самаўрадаў. Аднак, у час дыскусіі высветлілася, што няма безагаворачнай падтрымкі для такой ідэі ў нашых пушчанскіх гмінах. Мы памятаем яшчэ абяцанні ўлад, калі нядаўна пашыралі запаведнік у два разы. Мелі тады даць дадатковыя грошы на экалагічныя інвестыцыі, на пажарныя машыны для тушэння лесу і дадатковыя месцы працы. Міністр Жаліхоўскі страшыў, што доўга будзем шкадаваць, калі адкінем вялікія грошы, якія пойдуць за пашырэннем запаведніка. Сёння бачым, што грошы былі вельмі мізэрныя. Замест купіць пажарныя машыны (адна каштуе больш за 200 тысяч злотых), даплацілі толькі па 60 тысяч да кожнай. На турызм і інвестыцыі звязаныя з аховай лесу амаль і не было дадатковых сродкаў.

***— Якія прапановы і абяцанні былі на гэты раз?***

— Віцэ-міністр быў салідна падрыхтаваны да дыскусіі. Размаўляў з намі, як з партнёрамі. Не настойваў, каб хутка пашыраць запаведнік, чаго дабіваліся экалагічныя арганізацыі. Відаць, зразумеў, чаму самаўрады не адабраюць такога хуткага рашэння, а хочуць упэўніцца, што за запаведнікам пойдуць грошы патрэбныя на экалогію і турызм. Сказаў, што без згоды самаўрадаў ніякай пастановы не будзе.

***— Калі не было згоды на хуткае павелічэнне абшару запаведніка, якія былі вынікі дыскусіі?***

— Усе былі згодны, што ахоўваць пушчу безумоўна трэба. Аднак, прадстаўнікі Саюза гмін Белавежскай пушчы прапанавалі, каб не рабіць адразу запаведніка. Зараз увесь лес з'яўляецца абшарам краявіду, які спецыяльна ахоўваецца. Можна карыстацца яшчэ іншымі спосабамі аховы лесу. Падчас дыскусіі прысутныя прыйшлі да вываду, што трэба стварыць камісію, якая падрыхтуе графік работ неабходных для пераўтварэння ўсёй пушчы ў запаведнік, паводле якога павінны ісці далейшыя намаганні. Неабходныя будуць грошы з дзяржаўнага бюджэту, якія спатрэбяцца на альтэрнатыўныя месцы працы для нашага насельніцтва. Без дадатковых сродкаў не будзе чыстага паветра і вады, не будзе і пашырэння абшару запаведніка.

***— Інвестыцыі звязаныя з турызмам пачаліся ў гміне Дубічы-Царкоўныя яшчэ ў васьмідзесятых гадах. Якія прапановы адпачынку зараз?***

— Пабудавалі мы вадасховішча Бахматы і домікі на трыццаць асоб, дзе можна адпачываць у камфартабельных умовах. Школу ў Старыне аддалі ў карыстанне прыватнай суполцы „ТЕС" і яе кіраўнік, Адам Захарчук, арганізуе там адпачынак для дзяцей і моладзі. Былі там дзеці з Салігорска пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, летам прыедуць праваслаўныя

[працяг ☞ 3]

**У кожнага свае жыццёвыя арыенціры. Важныя і менш важныя. Яны — сведкі нашых выйграных і прайграных шанцаў. А часамі толькі бываюць звычайныя гадавіны...**

## У дарозе...

Яўген Вапа

У снежаньскі ранак а палове шостай, калі мароз трымаўся пад мінус дваццаць два, накіраваўся я, як штодзённа, у бок бельскага вакзала, каб ехаць на працу ў Гайнаўку. Відаць, мароз добра страпянуў мяне за мазгі і склеіў вейкі, каб сцяміць, што ўжо дзесяць гадоў маім жыццёвым арыенцірам з'яўляецца Гайнаўка. Чатыры гады вучобы ў ліцэі і шэсць гадоў працы там жа. Дзесяць гадоў штодзённых паездак. Пералічыць гэта на дні хутка, але на гадзіны ці мінуты... І нейк так склалася, што ліцэйскія і цяперашнія паездкі больш-менш да сябе падобныя. У ліцэйскія часы выязджаў я а $5^{50}$, зараз — а $5^{45}$. Вяртаўся ў $16^{50}$, цяпер — у $16^{40}$. Як і раней прыходзіцца мне падымацца перад пятай. Некаторым — гэта яшчэ ноч і самы смачны сон. А для мяне гэта пачатак дванаццацігадзіннага перыяду больш ці менш разумных спраў.

**Ранішні маршрут**

„Вазілі мы, вазілі і давазіліся. Амаль усіх людзей перасялілі ў горад", — так пачынаюць свае размовы шафёры, што едуць у Гайнаўку, дзе адпачываюць іхнія аўтобусы. У дарозе пачынаюць сварыцца за грошы і людзей. Кожны хоча ездзіць у Варшаву ці Брусель, а не на трасе нумар тры ці шэсць па Гайнаўшчыне. Тут не атрымаеш прыбытку ад прададзеных білетаў ці зэканомленага бензіну. Ездзяць, як гавораць самі, каб не выпасці з трасы, значыць, не страціць працу.

— Пры штогадовай змене раскладу аўтобусаў заўважаю, як знікаюць некаторыя маршруты, — кажа Віктар, ураджэнец невялічкай пушчанскай вёскі, якому выпала на долю даязджаць ужо дваццаць пяць гадоў. — Цяпер шафёры як анёлкі, але калісьці то паводзілі сябе быццам цары. Пасажыр толькі і марыў, каб увапхнуцца ў перапоўнены аўтобус, пакуль ён не заравe: „Miejsc już nie ma". Плач і просьбы не памагалі. А зараз так, што на адным фатэлі еду я, на другім мая сумка, а на трэцім, як маю ахвоту, кладу свой капялюш. Месца ўдоваль. І нат базарная серада ў Гайнаўцы не набівае ўжо бітком аўтобусаў, — дадае мой субяседнік.

Сам памятаю, калі цераз нашу вёску праехаў першы аўтобус. Быў гэта час „цывілізацыйнага павышэння" геркаў-

[працяг ☞ 3]

## У нумары

Арлянская амбулаторыя — будаўнічая язва ✓ стар. 3

Ці ў Беларусі магчыма забараніць Інтэрнэт? ✓ стар. 4

Спакуслівая тэза: „Польшча — краіна дзвюх літаратур" ✓ стар. 5

Вынікі V Фестывалю „Беларуская песня '98" ✓ стар. 8

Адпачынак і творчыя ініцыятывы нашых вучняў і дашкольнікаў ✓ стар. 9

Спакойная старасць у Кожыне ✓ стар. 9

Кума да кума заляцалася... ✓ стар. 11

# Мы прачыталі

*Obecnie w Polsce dochodzi do strasznych profanacji religijnych. Młody człowiek zakłada się z kolegą, że zabije człowieka. Wygrywa zakład i natychmiast po morderstwie idzie do kościoła, gdzie służy do mszy. Czyż to nie powinien być wstrząs dla sumienia chrześcijańskiego?*

*Polityka, nr 5*

Пры ўмове, што ёсць яшчэ ў Польшчы нейкія хрысціяне.

* * *

*Polskie służby specjalne coraz aktywniej werbują naszych obywateli — twierdzi szef białoruskiego KGB Władimir Mackiewicz. Główny czekista Białorusi twierdzi też, że posiada dowody, że ta wroga aktywność wzrasta. Władze białoruskie wezwały do Mińska na konsultację swego ambasadora w Warszawie, co oznacza, że dzieli nas tylko krok od zerwania stosunków dyplomatycznych. Bezpośrednim powodem było seminarium zorganizowane w Białymstoku przez Centrum Edukacji Obywatelskiej z udziałem czołowych opozycjonistów białoruskich. Minister spraw zagranicznych Białorusi pyta: jaka byłaby reakcja Polski, gdyby Białoruś zaprosiła przedstawicieli obecnej polskiej opozycji, żeby nauczyli się w Białorusi jak rządzić. A takich jest w Polsce wielu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 32*

Міністр Антановіч мае рацыю. Знаем палітыкаў з нашага ваяводства, якія ахвотна пашырылі б свае веды ў Беларусі.

* * *

*Калі над Беларусяй зноў узышоў савецкі герб і па-над усімі канторамі былі вывешаныя савецкія сцягі, адзін мінскі інтэлігент цынічна радаваўся. „Уяўляеш, як лёгка цяпер будзе нам здабыць палітычны прытулак за мяжой? Нават не трэба будзе шмат пакутаваць. Грамадзянін краіны з такімі сімваламі беспраблемна атрымае прытулак. На камедыю лукашыстаў, мы адкажам сваёй. Выйдзем над нашымі сцягамі ці раскажам анегдот пра Лукашэнку. Сапраўдныя тэрміны ды катаванні нас наўрад ці чакаюць. А вось візы, пашпарты і ўсё астатняе будзе сапраўдным". Гаварыў гэта ў траўні 95-га. Літаральна праз год яго балбатня пачала ўвасабляцца ў жыццё. Камедыі, праўда, было малавата. Але пашпарты і візы некаторыя камедыянты здабылі без ніякай затрымкі.*

*Наша ніва, н-р 1*

* * *

*47 працэнтаў дарослага насельніцтва Беларусі лічаць сябе веруючымі. З іх 84 працэнты адносяцца да праваслаўнай, а 14 працэнтаў да рымска-каталіцкай, астатнія 2 працэнты веруючых належаць да 24 рэлігійных канфесій.*

*Голас Радзімы, н-р 5*

* * *

*Tzw. „edukacja seksualna" została pomyślana i zaplanowana jako konieczny element szerszej strategii... w ślad za rewolucją leninowską i hitlerowską. Ma to umożliwić stworzenie nowego systemu totalitarnego i odpowiadającego mu niewolnictwu oraz kolonializmu,* — піша ксёндз прафесар Ежы Байда ў адкрытым лісце да прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага.

*Głos, nr 6*

* * *

*Na Marszałkowskiej w Warszawie leżał na torze tramwajowym trup, przykryty plandeką, spod której wystawały czubki butów. Nie było widać, czy to mężczyzna, czy kobieta. Nie było to dziecko. Nazajutrz gazety napisały, że był to 37-letni Białorusin.*

*Gdy jadący powoli autobus mijał trupa w środku niczym detonacja granatu rozległ się śmiech jakichś młodych ludzi. Kiedyś na widok trupa następowało milczenie. Trup skłaniał do zadumy. Budził coś w rodzaju religijnego dreszczu. Dziś coraz częściej wydaje się zabawny. Wynika to z oglądania filmów, gdzie krew leje się strumieniami, a komediowe sceny mordów niczym nie różnią się od dramatycznych.*

*Polityka, nr 6*

* * *

*Nie ma nic zdrożnego w tym, że naród białoruski postanowił mówić i modlić się w języku ojczystym. Ale przy tym nie powinien prześladować Polaków, Ukraińców, Rosjan. Przetrwanie prawosławia w Polsce związane jest z Rosją,* — сказаў архіепіскап Беластоцка-Гданьскай епархіі, генерал Сава.

*Czasopis, nr 2*

Не будзем больш праследаваць ні палякаў, ні рускіх, ні ўкраінцаў!

* * *

*Prezydent Aleksander Łukaszenko, który ogłosił obecny rok „rokiem Mickiewicza", na uroczyste obchody przydzielił milion dolarów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 33*

На святкаванне гадавіны для ўшанавання памяці Янкі Купалы ці Максіма Багдановіча „господин" прэзідэнт прызначыць мільён беларускіх рублёў.

* * *

*Wójta Gminy Orla znają w Warszawie,* — інфармуе

*Kurier Poranny, nr 36*

Віншуем войта і жыхароў гміны.

* * *

*Лукашэнка спадзяецца на смерць Беларусі,* — паведамляе амерыканскі

*Беларус, н-р 450*

Беларускае тэлебачанне гаворыць, што наадварот, прэзідэнт вядзе краіну ў светлую будучыню. Але каму паверыць „просты" чалавек?

* * *

*Gdy tylko trochę poskrobać, spod świeżej farby wyłazi z policjantów gęba milicjanta. Aroganckiego i bezkarnego,* — піша

*Tygodnik „Solidarność", nr 4*

# З мінулага тыдня

**Эва Спыхальска** — пасол РП у Беларусі пакінула дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Менску і падалася ў водпуск, аднак на працу ў сталіцу Беларусі ўжо не вернецца. У ліку кандыдатаў на пасольскую пасаду найчасцей называецца **Мар'юш Машкевіч** — рэлігіязнаўца, выпускнік Ягелонскага універсітэта (дактарат па пытаннях праваслаўя). У дыпламатыі працуе з 1990 года, а ў 1994-1997 гадах быў консулам РП у Гродне, дзе праславіўся як ініцыятар інтэгруючых палякаў Гродзеншчыны дзеянняў.

**Таннейшыя візы** праўдападобна будуць уведзены ў бліжэйшы час і выдаваць іх будуць польскія консульствы, — заявіў віцэ-міністр унутраных спраў і адміністрацыі **Войцех Брохвіч**. Цяпер самая танная віза каштуе 20 дол. ЗША, ваўчэр — 12 дол., а запрашэнне — 1,5 зл. Новая віза павінна быць таннейшай за ваўчэр. У студзені ўсходнюю мяжу Польшчы перасякло 1,7 млн. чалавек — на 20% менш чым у снежні мінулага года.

**Пратэстацыйны камітэт** беластоцкіх купцоў заявіў, што іх праэст супраць абмежаванняў у гранічным руху будзе працягвацца, аднак спыняюцца яго радыкальныя формы, напрыклад, блакіраванне гранічных пераходаў. Пакуль што, камітэт прад'явіў ураду свае пастулаты. Беластоцкія прадпрымальнікі патрабуюць хуткага зніжэння цэн аднаразовых візаў для турыстаў з Усходу з 20 на 5 доляраў, а шматкратных — з 60 на 10 доляраў. Патрабуюць яны таксама, каб візы прадаваліся на граніцы, паколькі на Усходзе працуе нямнога польскіх дыпламатычных прадстаўніцтваў. Прытым выказалі яны спадзяванне, што прадстаўнікі ўрада хутка ўвядуць змякчэнне закона аб іншаземцах, што заахвоціць грамадзян краін СНД зноў прыязджаць за пакупкамі на польскія базары.

**Сусветны дзень праваслаўнай моладзі**, які быў абвешчаны шэсць гадоў таму Сындэсмасам — сусветнай федэрацыяй праваслаўных маладзёжных брацтваў, адзначаецца ў дзень Стрэчання Гасподняга — 15 лютага. Сёлетнія святкаванні, у сувязі са смерцю мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы **Васілія**, мелі выключна рэлігійны характар.

**Дом міласэрнасці „Самаранін"** пры Свята-Троіцкім прыходзе ў Гайнаўцы прыняў ужо 30 чалавек з раёна Гайнаўкі і навакольных гмін. Дабрачынную ўстанову асвяціў і яго ўправу назначыў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Дырэктарам Дома стаў настаяцель прыхода а. **Міхаіл Негярэвіч**, а яго насмеснікам — **Лідзія Ліцкевіч**. У новаадкрытым доме грамадскай дапамогі можа пражываць 39 падапечных.

**Беластоцкі ваявода** адклікаў з пасады **куратара асветы Тадэуша Калюту**. Яго абавязкі да часу вырашэння конкурсу на гэтую пасаду выконваць будзе **Зофія Трацыгер** — віцэ-куратар.

**Беластоцкая** раённая пракуратура абвінаваціла 19-гадовую студэнтку першага курса аддзялення педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку ў прафанацыі дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. Інцыдэнт здарыўся 25 снежня мінулага года, калі студэнтка з малалетняй сяброўкай сарвалі з будынка Генеральнага консульства РБ у Беластоку дзяржаўны сцяг. Абедзве потым тлумачылі, што не ведалі, што зрываюць дзяржаўны сцяг і думалі, што гэта нейкі рэкламны флажок. За ўстараненне дзяржаўнага сцяга пагражае кара да двух гадоў зняволення або штраф.



# Весткі з Беларусі

**У абарону маладафронтаўцаў**

5 лютага г.г. група дэпутатаў ад фракцыі „зялёных" Еўрапарламента вынесла праект рэзалюцыі, у якім патрабуецца ад беларускіх улад вызваліць з турмы Аляксея Шыдлоўскага, Вадзіма Лабковіча і Вадзіма Кабанчука, — паведаміла бюро „Хартыі '97" у Брусэлі. Трое актывістаў Маладога Фронту ўжо амаль шэсць месяцаў знаходзяцца ў следчым ізалятары з-за пісання на мурах антырэжымных лозунгаў.

**Рыхтуюцца святкаванні БНР**

Апазіцыйныя сілы Беларусі пачалі падрыхтоўку да святкавання 80-годдзя з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо створаны аргкамітэт з шасцідзесяці вядомых апазіцыйных палітыкаў і дзеячаў культуры, які падаў у Менскі гарадскі выканаўчы камітэт прашэнне аб дазволе на правядзенне юбілейных урачыстасцей. У праграме святкаванняў прадугледжана шэсце (22 сакавіка) па праспекце Скарыны, мітынг ля тэатра Янкі Купалы (у гэтым будынку адбыўся з'езд, што абвясціў БНР), а таксама святочны канцэрт (25 сакавіка) на адной з самых лепшых канцэртных пляцовак горада.

**Развітанне з Беларуссю**

На сустрэчы з першым віцэ-прэм'ерам урада Беларусі Пятром Пракаповічам надзвычайны і паўнамоцны пасол Польшчы Эва Спыхальска паведаміла, што падала заяву аб сваёй адстаўцы з пасады пасла і будзе працаваць у адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага. Паводле слоў дыпламата, яе рашэнне было выклікана жаданнем не ўскладняць рознагалоссе паміж кіраўніком польскага знешнепалітычнага ведамства, што выступіў з патрабаваннем аб яе адкліканні з Беларусі, і прэзідэнтам краіны Аляксандрам Кваснеўскім, які лічыць, што Спыхальска павінна працягваць работу ў Менску. Праведзены ў Беларусі час пасол назвала вельмі цікавым перыядам у сваім жыцці і хоць не ўсё ўдалося зрабіць, што планавалася, Эва Спыхальска спадзяецца на далейшае развіццё беларуска-польскіх узаемаадносін.

**Дапамога ЮНІСЕФ**

У Нью-Йорку завяршыла работу чарговая сесія Выканаўчага савета Дзіцячага фонду ААН ЮНІСЕФ. У ходзе сесіі зацверджаны бюджэт арганізацыі на 1998-1999 гады. Бюджэт прадугледжвае выдзяленне Беларусі з дапаможных рэсурсаў ЮНІСЕФ 1 млн. 75 тыс. дол. ЗША на падтрымку праектаў праграм па паляпшэнні становішча жанчын і дзяцей.

**Заканадаўчы дадатак**

Прэзідыум Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Беларусі абмеркаваў зварот рэдкалегіі газеты „Звязда" адносна публікавання заканадаўчых актаў. Прынята рашэнне звярнуцца да прэзідэнта рэспублікі выдаць указ аб парадку публікавання законаў і іншых нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь і прапанаваць Савету Міністраў выдаваць штотыднёвы дадатак да газеты „Звязда" — „Заканадаўчы веснік".

**Нестатутныя выпадкі**

Вынікі сумеснай работы па ўмацаванні дысцыпліны ў часцях і падраздзяленнях беларускай арміі за мінулы год былі падведзены на сустрэчы міністра абароны генерал-палкоўніка Аляксандра Чумакова з прадстаўнікамі Рэспубліканскага камітэта салдацкіх маці. У 1997 годзе колькасць выпадкаў нестатутных узаемаадносін і парушэнняў воінскай дысцыпліны ў параўнанні з 1996 годам значна скарацілася. Аднак нягледзячы на гэта ў мінулым годзе 65 ваеннаслужачых, у тым ліку 13 тэрміновых, загінулі. Міністр выказаў таксама заклапочанасць тым, што цяпер ва ўзброеных сілах служаць паўтары тысячы чалавек, якія маюць умоўную судзімасць.

**Антыкварная кантрабанда**

Міжнародны канал кантрабанднага перавозу праз беларуска-польскую граніцу антыкварных каштоўнасцей выявілі супрацоўнікі КДБ па Гродзенскай вобласці. Прадметы даўніны паступалі з Расеі і перавозіліся ў Польшчу праз адну з пагранічных застаў. Акрамя расейскіх і польскіх грамадзян у арганізаваную злачынную групу ўваходзілі некалькі жыхароў Беларусі. Арыштаваны і змешчаны ў следчы ізалятар сем чалавек, у тым ліку адзін ваеннаслужачы 16 Пагранічнага атрада, які забяспечваў прыкрыццё злачыннай групы.

# Будаўнічая язва

Яшчэ да выбуху I сусветнай вайны мястэчка Орля мела свой шпіталь і добрых спецыялістаў у ім. Пасля вайны шпіталь быў ліквідаваны, а будынкамі ў міжваенны перыяд карысталася мясцовая школа. Пасля II сусветнай вайны частку згаданых будынкаў занялі Управа гміны, дзіцячы сад, бібліятэка, дом культуры і клуб.

Гмінная ахова здароўя для сваіх медыцынскіх патрэб і на радзільны дом заняла былы яўрэйскі будынак. У 1986 годзе ўсе шпітальныя будынкі былі знесены, дзіцячы сад — закрыты, а на пустым пляцы пачалася будова новай школы. У новым павярховым будынку змяшчалася ўжо сядзіба Управы гміны.

У 1989 годзе, паралельна са школай, пачалі будаваць у Орлі новую амбулаторыю — гмінны асяродак здароўя. Калі бульдозеры сталі расчышчаць будаўнічую пляцоўку, чатырохтысячнае грамадства Арлянскай гміны цешылася, што неўзабаве гмінная ахова здароўя атрымае лепшыя ўмовы для працы і павысіцца ўзровень медыцынскіх паслуг. Год пазней, калі фундаменты будынка былі амаль гатовы, будова амбулаторыі спынілася.

17 снежня 1992 года школу здалі ў карыстанне, а недаконачаная амбулаторыя для гмінных улад стала „будаўнічай язвай". Надзея на хуткае завяршэнне будовы амбулаторыі ажыла падчас апошніх выбараў у Гмінную раду. Сярод людзей хадзілі пушчаныя посткамуністамі чуткі, што ў цэнтры Орлі (побач банка) неўзабаве стане каталіцкі касцёл. На пакінутай будове пачаўся зрух, з'явіліся машыны і рабочыя, а навокал пракладваліся асфальтавыя вуліцы. У выніку будоўля была даведзена да „нулявога стану", завяршылася будова вуліцы Аградовай і аднаго тратуара на ёй, а рэшта вуліц атрымала па некалькі дзесяткаў метраў асфальтавага палатна. Машыны, апрача вялікага грукату, зрабілі, аднак, нямнога. Быў гэта звычайны прапагандысцкі абман мясцовых людзей, якія ўсё-такі ўмеюць яшчэ думаць разумна і цяпер, перад чарговымі выбарамі, такі нумар ужо не пройдзе.

Аднак войт гміны Орля, прызнаючы значэнне і патрэбу забеспячэння гміны ў ваду, значна паскорыў выкананне плана пракладкі водаправодаў да 2005 года і ўжо ў 1996 годзе паасобныя вёскі, разам з хутарамі, атрымалі ваду з крана. Лік насельніцтва Арлянскай гміны, аднак, усё падае. Дзесяць гадоў таму налічвала яна 5 тысяч жыхароў, сёння — толькі 4 тысячы. Нядаўна ў выніку незадаволенасці і па ўласным жаданні адышла да Бельскай гміны вёска Крывая, а разам з ёю 7 тысяч злотых бюджэтных даходаў ад падаткаў у год.

Будынак старой амбулаторыі за ўсю сваю гісторыю рамантаваўся і перабудоўваўся мясцовымі дзеячамі і Управай гміны некалькі разоў. Восенню 1996 года дах быў урэшце перакрыты шыферам. А фундаменты новай амбулаторыі ўжо 9 гадоў падвяргаюцца разбуральнаму ўздзеянню вільгаці і моху. Побач раскрадаецца сталярка новых гаражоў.

Свет крочыць наперад. Прыкладам гэтаму хай будзе згаданая ўжо вёска Крывая, у якой пасля адыходу з нашай гміны жыхары ўздыхнулі з палёгкай. У Орлі надзея на завяршэнне будовы амбулаторыі апіраецца на чарговыя выбары. **Пакуль што, будаўнічая язва расце.** Я сам асабіста веру, што будзе лепш, а прынамсі нармальна. Што ж зробіш, калі Орля ў сваёй пасляваеннай гісторыі не мела яшчэ мясцовага гаспадара на кіруючай пасадзе, які б сапраўды сумленна дбаў пра ўсіх жыхароў гміны.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Напаўразбураныя фундаменты новай амбулаторыі.*

# Ці стане пушча запаведнікам?

[1 ☞ працяг]

дзеці з дзетдамоў Беласточчыны. У час летніх канікулаў рыхтуем начлегі і ў школе. Вада, лес і чыстае паветра прыцягваюць на адпачынак. Патрэбнае добрае харчаванне і больш месцаў на начлегі, але няма грошай ні на гасцініцу, ні на сталовую. Не хапае грошай на рамонты дарог. У мінулым годзе наш бюджэт быў невялікі — 1 мільён 600 тысяч злотых, у якім толькі 40% састаўлялі ўласныя даходы, 40% субсідыі і прыблізна 20% датацыі на канкрэтныя задачы. Дзе ж тут браць грошы на турызм ці экалогію, калі 90% субсідыяў пайшло на школы ў Дубічах і Старым Корніне.

***— Якая прычына такой беднасці гміны?***

— Хаця абшар гміны — 15 тысяч гектараў, дык больш чым палову састаўляюць лясы. 75% грунтаў гэта неўрадлівыя землі 5 і 6 класаў. Па вёсках вялікае беспрацоўе. Можа ў ваяводстве знойдзецца яшчэ адна або дзве такія бедныя гміны. Грошы, якія застануцца ў бюджэце ідуць на дарогі і водаправоды. Цяпер амаль ва ўсіх вёсках вада з трубаў.

***— Можа нешта зменяць самаўрадавыя рэформы?***

— Дыскусій пра паветы і новыя ваяводствы ў нас яшчэ мала. Лічу, што паветы зусім непатрэбныя. Хапіла б узмоцніць гміны і цяперашнія ваяводствы. Можа тады знайшліся б грошы на неабходнае — мадэрнізацыю школы і пабудову гімнастычнай залы. Калі б разам з павелічэннем абшару запаведніка ішлі канкрэтныя фінансавыя сродкі, зрабіўся б нейкі інвестыцыйны зрух і ў нашай пушчанскай гміне.

***— Дзякую за размову.***

# У дарозе...

[1 ☞ працяг]

скай эпохі. Не трэба ўжо трапаць пяць кіламетраў на чыгуначную станцыю. Гайнаўка стала нашым цывілізацыйным пупом. За навукай і працай штодзённа перад сёмай раніцы з усіх куткоў Гайнаўшчыны звозілі аўтобусы натоўпы людзей. „Хімічная" і „Тартак" — два найбольшыя гайнаўскія прадпрыемствы — глыталі „сялян-рабочых" — прадукт гамулкаўска-геркаўскай індустрыялізацыі. Восем-дзесяць гадзін на фабрыцы, восем-дзесяць — гараванне на гаспадарцы і чатырыпяць гадзін сну. Так узніклі „фартуны" ў выглядзе мураванай хаты і выкупленага „блёка" для дзяцей. Драўляныя дамы забаранялі тады ставіць.

Як тады, так і цяпер, апошнія асколкі з гэтай праслойкі ў аўтобусе проста хочуць спаць. І добра памятаецца мне пах фабрычных заводаў перамешаны з пахам скошанай травы. У восеньскіх і зімовых месяцах у аўтобусах пахла нафталінам і недахопам ванны ў дачыненні да цела. Гарадскія праектанты для вяскоўцаў у іхніх новапабудаваных хатах не прадбачылі такіх „выгодаў".

У аўтобусе заўсёды існавала важнасць займаных месцаў, — расказвае далей Віктар. — Сядзець найбліжэй шафёра — гэта шчасце. Забранірабанае яно было добрым знаёмым і іншым шафёрам. Далей сядзелі працоўныя, а ў канцы аўтобуса ўладкоўвалася моладзь, якая жартавала або гуляла ў карты.

У „маім" аўтобусе Бельск—Гайнаўка захаваліся рэшткі гэтай традыцыі. Людзі неяк натуральна пераходзяць далей, абмінаючы першыя фатэлі. Незнаёмы шафёр хутка правучыць. Ну, але калі няма іншых шафёраў, то і мне ўдалося там апынуцца некалькі разоў.

У аўтобусе амаль не гуляюць у карты... Вернымі гэтай традыцыі засталіся некалькі шафёраў, якія патрапяць згуляць пяць-шэсць разоў у „дурня" пакуль даедуць на вакзал.

**Аўтобусны вакзал**

— Я, хаця радавітая гайнавянка, але „волю" даязджаць на працу з Бельска. Не хачу жыць у Гайнаўцы, — тлумачыць Галіна, старэйшая на год сяброўка з ліцэйскіх часоў. — У Гайнаўцы, — кажа, — усё неяк застыла на сямідзесятых гадах. Усё такое сумнае, бесперспектыўнае, а Бельск ідзе ўгару. Хопіць паглядзець на аўтобусны вакзал.

Цяжка не згадзіцца з ёю. У Бельску пайшлі па розум у галаву і спалучылі аўтобусны і чыгуначны вакзалы. Яшчэ крыху вады і парашку дае нядрэнны вынік. У Гайнаўцы аўтобусны вакзал размясціўся пасярэдзіне горада. Можа служыць ён турыстам з Захаду і дзецям з пачатковых школ прыкладам сацыялістычнай рэчаіснасці. Але невялікая з гэтага пацеха даязджаючым і тым гайнавянам, якім на сэрцы ляжыць вонкавы выгляд іхняга горада. „Гайнаўскія вароты" ў свет па-даўнейшаму занядбаныя, з аблупленай фарбай і патрэсканым тынкам. І несмяротны пах, папраўдзе, смурод, якім патыхае ад аўтобуснай прыбіральні. Дарэчы, пакарыстацца ёю можа прымусіць хіба толькі звышчалавечы ціск біялагізму на кантрольныя рэакцыі арганізма. „Грошы не смярдзяць", — мовілі старажытныя, але не відаць, каб хтосьці схацеў укласці грошы ў тое, каб перастала смярдзець на гайнаўскім аўтобусным вакзале.

— Калі ў Гайнаўцы будаваўся прыгожы чыгуначны вакзал, які зараз амаль пустуе, бо закрылі лініі ў Беласток і Белавежу, то чаму нікому не прыходзіць у галаву спалучыць яго з аўтобусным вакзалам?, — пытаецца, не чакаючы адказу, „хворая" на гайнаўскія парадкі Галіна.

— Кожны прыезд сюды прыводзіць мне на ўспамін пошукі моцнага жыцця ў ліцэйскія гады, — усміхаючыся расказвае мой школьны аднагодак. — На вакзале я заставаўся, калі не хацелася ісці ў школу. З падобнымі да сябе прабаваў браць лёс у свае рукі. Першыя папяросы выкурыў, а піва, віно глытнуў на вакзале. І з дзяўчатамі мы тут дамаўляліся. І ў гэтым месцы давялося дастаць па зубах ад гайнаўскіх жулікаў, якія прыйшлі правучыць вяскоўцаў. Але ў нас, даязджаючых, была сіла, хутка мы склікаліся і давалі рэзкі адпор, — заканчвае ён свой успамін.

Я стараюся прыходзіць на вакзал некалькі хвілін да ад'езду. Часамі лепей, як кажуць, калі вочы не бачаць, то і сэрца не баліць. А біялагічныя і эмацыянальныя патрэбы маладзёнаў далей такія ж самыя. На прывакзальным падмурку далей ідзе выпрабаванне маладых арганізмаў спакусамі дарослага жыцця. З невялікім дадаткам больш гнутых матаў, папяросаў у вуснах дзяўчат. І ўсе штораз менш баяцца паліцыі.

**Вяртанне**

— Штогод абяцаю сабе, што перасялюся ў Гайнаўку, або пачну даязджаць на ўласнай машыне, — тлумачыць пры пляшцы піва Віктар, — але я хіба ўжо не магу інакш. Дваццаць пяць гадоў падарожжа, зашмат часу, каб нешта змяніць. У нядзелю, калі магу, здаецца, і адпачыць дадзюжэй, прачынаюся і наслухоўваю ці чуваць ужо знаёмы гул аўтобуснага матора. Дакладна ведаю, калі які шафёр вядзе сваю машыну. І люблю, вечарам вяртаючыся ў хату, пагаманіць пра абы-што з шафёрам. Ад некалькіх гадоў сяджу ў першым фатэлі пры ўваходзе. У галаву ўвогуле не дапускаю думкі, што і „маю трасу" могуць закрыць.

„Майго" аўтобуса таксама хіба хутка не закрыюць. Назад возіць ён больш людзей чымсьці раніцай. Як і калісьці жартуюць маладзёны, але ўжо па-польску. Ветэраны, якія пры зарплаце вып'юць сотню ці дзве дзеля традыцыі, а не радасці, нешта сумнае распавядаюць сабе пад носам. І тады не хочацца слухаць жыццярадасных нараканняў маёй спадарожніцы Галіны пра цяжкую працу і яе цудоўных дзяцей. Цемра, дождж або снег уводзяць настрой глыбокага неспакою. Думкі сягаюць у наступны дзень: як падняцца раніцай з пасцелі? Не цешыць нат плывучы па радыё голас астролага, нібыта ў гэтым годзе будзем здаровымі і багатымі... Адно шчасце, што паволі, але мінае з боку шафёраў мода мучыць пасажыраў гітамі музыкі disco polo. Бо ад гэтых „майтак у кропачкі" і „нешчаслівых каханняў у восеньскіх колерах" страўнік і мазгі не вытрымоўваюць. Мусіць і шафёры зразумелі, што гэтая музыка не вырашае іхняй долі. І зразумеўшы гэта, сціскаюць мацней баранку руля і дабаўляюць хуткасці. Мне тады робіцца страшна за тое, каб не апынуцца на нейкім дрэве ці ў рове. Хочацца, каб мой дванаццацігадзінны працоўны дзень закончыўся шчасліва. Ну, яшчэ засталося толькі паспець на аўтобус гарадскога транспарту, бо інакш прыйдзецца шпацыраваць з мусу вуліцамі прыгожага, але не надта бяспечнага горада. І а 4³⁰ наступнай раніцы, а мо ночы, будзільнік зноў парадуе мяне сваім глухім званком. — У дарогу!

**Яўген Вапа**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Свабодная прэса ў Беларусі

**Калі гродзенцы ахвяравалі ў падтрымку сваёй незалежнай мясцовай газеты „Пагоня" 170 млн. рублёў, рэдакцыя прапанавала ўсім, хто ўзнёс больш за 50 доляраў, дармовую рэкламу на сваіх старонках. Пасля гэткай прапановы фірмы і іхнія дырэктары запрапанавалі рэдакцыі яшчэ большую датацыю — каб толькі прозвішчы і назвы ахвярадаўцаў не з'явіліся ў беларускім незалежным друку...**

**Такая вестка прагучала 1 лютага г.г. у Беластоку ў час нарады Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча — Беларусь", у ходзе якой рэдактары апазіцыйных выданняў знаёмілі з сітуацыяй незалежнай прэсы ў Беларусі.**

**Ніжэй прыводзіцца гутарка з Ігарам ГЕРМЯНЧУКОМ — галоўным рэдактарам мінскай газеты „Навіны", якая ўзнікла пасля забароны гаспадарчым судом газеты „Свабода".**

***— Як тэхнічна адбылося выкананне пастановы гаспадарчага суда аб забароне газеты „Свабода"?***

— Рашэнне аб забароне „Свабоды" было прынята за пятнаццаць хвілін і нумар, які мы падрыхтоўвалі на раніцу наступнага дня не павінен быў выходзіць — у адпаведнасці з рашэннем, якое ўступала ў сілу з моманту прыняцця. Нумар гэты аднак выйшаў у свет і мы ў ім паспелі паведаміць грамадскую думку, што наша газета забаронена. Наступнага дня пасля рашэння суда ў друкарню і дзяржаўную службу распаўсюджвання паступіла распараджэнне суда аб забароне „Свабоды". Такім чынам легальны шлях друкаваць „Свабоду" і яе распаўсюджваць закрыўся. Безумоўна, мы маглі знайсці магчымасць выдаць газету падпольна. Мы аднак разумелі, што наступяць санкцыі, пасля якіх не зможам ужо займацца сваёй прафесійнай дзейнасцю. Таму выбралі мы легальны шлях — рыхтаваць выданне пад новаю назвай. Адначасна мы падалі апеляцыю на рашэнне аб забароне „Свабоды". Лічу, што пакуль можна трэба скарыстоўваць легальны шлях выпуску незалежнай газеты — легальны друк шырэй даступны.

***— Якія меры маюцца ў руках адміністрацыі, што яна ў змозе ўплываць на незалежную прэсу ў Беларусі, уключна з закрыццём газеты?***

— Закрыццё газеты — гэта абсалютна апошняя мера. Але ж, усе друкарні ў краіне, якія могуць друкаваць газеты — належаць дзяржаве. Можна, у сувязі з гэтым, загадаць друкарні не друкаваць канкрэтную газету — мусіць яна пераехаць за мяжу. Другое — гэта забараніць распаўсюджваць газету. Альтэрнатыўныя (недзяржаўныя) структуры распаўсюджвання прэсы існуюць толькі ў Мінску ды маламагутныя яны. Наступная мера — гэта ціск з дапамогаю пракуратуры і іншых праваахоўных органаў. У прыватнасці, супраць нашых публікацый у „Свабодзе" ўзбуджана некалькі крымінальных спраў. Ну, уявіце сабе, што над вамі вісяць дзве крымінальныя справы — адна з іх „за паклёп на прэзідэнта", за што пагражае да пяці гадоў турмы. Гэта таксама свайго роду ціск — дзяржава паказвае, што можа цябе пасадзіць за краты.



***— Газеты ў Польшчы выжываюць перш за ўсё за кошт рэкламы. Як гэта справа выглядае ў Беларусі і, канкрэтна, у выпадку „Навінаў"?***

— Сітуацыя ў нас такая, што рэкламадаўцаў наогул стала менш, а па-другое — рэкламадаўцы ў цяперашніх умовах баяцца даваць рэкламу ў апазіцыйную прэсу. Яны разумеюць, што калі рэкламу гэту заўважыць улада — у рэкламадаўцаў будуць праблемы. Праблемы гэтыя перавысяць спадзяваную ад рэкламы карысць. Рэкламадаўцы звычайна баяцца, а мы — мусім выжываць выключна за кошт чытача. „Свабода" была акупнаю газетай ды прыносіла нават невялічкі прыбытак, які даваў нам магчымасць развівацца. Перад намі цяпер задача такая: вырабляць высакаякасны тавар, за які чытач будзе гатовы заплаціць даволі вялікія грошы, бо рэклама ў суме нашых даходаў складала толькі 5 працэнтаў.

***— Развіццю свабоднай прэсы не спрые і тая акалічнасць, што цана афіцыйнай урадавай газеты заніжаная. Які сёння рэальны кошт выпуску газеты ў Беларусі?***

— Рэальны кошт газеты, як нашай, у восем палосак — прыблізна 10 цэнтаў. За гэтую цану мы мусім яе прадаваць. Калі меркаваць па газетнай плошчы, дык цана дзяржаўнай газеты ў 4-5 разоў ніжэйшая. Але мы, як я ўжо адзначыў, бярэм іх якаснасцю інфармацыі.

***— У вашым дакладзе прагучала паражальная для мяне вестка, быццам у Беларусі магчыма забараніць Інтэрнэт. Ці сапраўды ў сённяшніх умовах можна адгарадзіць краіну ад інфармацыі?***

— У Беларусі, безумоўна, гэта магчыма. У нас працуе маса правайдэраў (пастаўшчыкаў інтэрнэтавых паслуг — А. М.), але адзіны выхад на глабальную сетку — толькі праз дзяржаўную фірму. Такім чынам, калі правайдэр нечым дзяржаве не спадабаецца — яго вельмі лёгка пазбавіць выхаду на гэтую глабальную сетку. Правайдэр гэтага сапраўды баіцца і мусіць паводзіць сябе так, каб не выклікаць незадаволенасці з боку ўлады, бо тады яго бізнес будзе прыкрыты. Як гэтая сістэма страху спрацоўвае на практыцы, было відаць на прыкладзе „Свабоды". Пасля некарыснага для газеты рашэння суда, правайдэр, які паказаў яе ў Інтэрнэце, адмовіўся рабіць гэта надалей. Мы мусілі аператыўна шукаць новага правайдэра, які паказаў бы „Навіны". Справа выглядае так, што Лукашэнка фактычна кантралюе ў Беларусі Інтэрнэт.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксандр Максімюк**

*Графічны сімвал газеты „Навіны" ўзяты з* **www.belarus.net**

**СВАБОДА навіны**
**http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/**
**e-mail: edit@svaboda.minsk.by**

# Займайцеся надзённымі справамі

Сумна зрабілася мне на душы, калі прачытаў я рэпліку Міхала Мінцэвіча ў „Ніве" ад 8 лютага 1998 г. З аднаго боку таму, што карэспандэнт апраўдваецца з таго, што паказаў у сваім рэпартажы „Страхоўка ў наручніках" як вядзе сябе паліцыя сярод насельніцтва. З другога боку таму, што рэдакцыя, замест бараніць свайго супрацоўніка, паклала вушы па сабе і спыняе дыскусію на актуальную і хвалюючую грамадскую тэму. Памойму, прэса, між іншым, мае абавязак узнімаць розныя грамадскія тэмы.

Наракаем мы, чытачы, што ў „Ніве" няма змястоўных артыкулаў, рэпартажаў, што нашы інтэлектуалы не толькі што не пішуць цікавых артыкулаў, але зусім не пішуць у „Ніву". А можа рэдакцыя падпісала б дагаворы з ахвотнымі падзяліцца сваімі думкамі вядомымі і паважанымі грамадствам аўтарамі. Няўжо ж іх няма? Тэмы, як часта гавораць, ляжаць на вуліцы, толькі трэба ўмець іх падняць: паветы, сельская гаспадарка, асвета, што думаюць пра дэцэнтралізацыю гмінныя ўлады, войты, суадносіны з БГКТ, нацыянальная тэма і г.д.

Фактычна, можна прыкрыць дыскусію на цікавыя тэмы, бо камусьці гэта не падабаецца. Але дзеля таго выдаецца прэса, незалежная і ўедлівая, каб займалася актуальным жыццём, не толькі гісторыяй. Калі не, то запіхаем белыя плямы старонак тыднёвіка псеўдапаэзіяй слаўных карэспандэнтаў, якія з-за недахопу тэм узяліся за вершаваную прозу. Вандал Арлянскі піша („Ніва" ад 8.02.1998 г.) што М. Панфілюк хоць піша „не найбольш складна, але сваё" і што гэта лепшае ад творчасці першага плагіятчыка. Падумайма аб чым гаворым: узровень паэзіі — творы плагіятчыка — вершаваная проза аўтараў „Парнасіка"!?

**Міхась Куптэль**

PS. А можа чытачоў запытаць, што хацелі б чытаць у „Ніве" і каго?

**Ад рэдакцыі:** Працягваць дыскусію над артыкулам „Страхоўка ў наручніках" не жадаў сам аўтар. Дарэчы, на гэту тэму адгукнуліся толькі адны Вы. Хаця не абыходзім маўчаннем пералічаных Вамі тэм, Вашы крытычныя заўвагі прымаем са зразумменнем і свядомасцю сваёй недасканаласці. Увесь час намагаемся па меры магчымасцей рабіць „Ніву" цікавай. Наколькі нам гэта ўдаецца, няхай ацэньваюць чытачы.

# Жах у інтэрнаце

Уладзімір Рынкевіч з'яўляецца дацэнтам мінскага Беларускага універсітэта культуры, а прытым знакамітым акварэлістам. Свае працы прэзентаваў ён на шматлікіх выстаўках у Беларусі, а таксама ў Італіі, Польшчы, Англіі. У выніку мінулагодняга продажу ягоных акварэляў на аўкцыёне ў Італіі ўдалося яму сабраць пару тысяч долараў на дапамогу дзецям пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі.

З багатай біяграфіі мастака найбольш запамятаўся мне яго расказ пра навагодні вечар, калі жыхары Мінска развіталіся з 1995 і віталі 1996 год. Тэмпература ў сталіцы Беларусі ўпала тады да 30 градусаў ніжэй нуля. Рынкевіч гэту ноч праводзіў у сваёй майстэрні, якая знаходзіцца ў памяшканнях універсітэцкага інтэрната. Шмат людзей прыходзіла, каб павіншаваць мастака з Новым годам і выпіць чарку гарэлкі ці шампанскага. Недзе каля поўначы наступіла аварыя цэнтральнага ацяплення. Навагоднія святкаванні не спрыялі хуткаму прыезду рамонтнай брыгады. Мастак, якога ахапіла творчае натхненне, вырашыў яшчэ папрацаваць да раніцы. Недзе каля трэцяй фарба пачала замярзаць і немагчыма было працягваць працу. Гадзіну пасля нешта пачало трэскацца ў сцяне, сталі варушыцца цагліны, як бы нейкая нячыстая сіла спрабавала вырвацца з муроў. Склалася сітуацыя быццам бы з нейкай амерыканскай кінажахалкі, — кажа Рынкевіч. Але ўсё аказалася больш празаічнае. Гэта, проста, мароз пачаў выкручваць напоўненыя вадою трубы.

На другі дзень у выніку невыноснага холаду ўсе беларусы, жыхары інтэрната выехалі да сваіх дамоў. Асталіся толькі негры і пару азіятаў, якія вучыліся ў Менску. Ім не было куды падзецца і вымушаны яны былі жыць у інтэрнаце, дзе тэмпература часам падала да 12 градусаў ніжэй нуля. Бегалі яны па калідорах з коўдрамі на галовах амаль цэлы тыдзень, пакуль адрамантавалі ацяпляльную сістэму. У туалетах, дзе таксама замерзла вада, стала горш чым у прыбіральні скідальскага аўтавакзала. Калі павысілася тэмпература, спатрэбілася яшчэ пару дзён, каб давесці да парадку інтэрнацкія туалеты.

— Жыццё, — гаварыў Рынкевіч, — часам дае больш уражанняў, чым найбольш фантастычная літаратура. Усе калегі, напрыклад, пытаюць мяне, якой тэхнікай намаляваў я гэтыя акварэлі, — тут паказаў патрэсканыя ў найдзіўнейшыя, амаль мікраскапічнага кшталту, узоры карціны. — А гэту ўсю фантастыку проста зрабіў мароз.

**Яўген Мірановіч**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 458

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

# Рабіць сваё

**У чэрвені святкавацьмем саракагоддзе Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". З гэтай нагоды прапануем увазе чытачоў гутарку са старшынёю Управы „Белавежы", Янам Чыквіным.**



*На гэтым, ужо вядомым чытачам, здымку — прыблізна саракагадовай даўніны — бачым амаль поўны склад тадышняе „Белавежы", разам з яе мерытарычнымі ды адміністрацыйнымі апекунамі (асобы старэйшага веку). Ян Чыквін — другі з левага боку, унізе; за крайнім Уладзімірам Гайдуком. Вышэй — Алесь Барскі з Віктарам Шведам (у акулярах). Не відаць Георгія Валкавыцкага, стваральніка „Белавежы", але ён не любіў фатаграфавацца.*

***— Ян Чыквін — выдатны паэт арэала беларускай мовы. Як быццам мала яму таго, яшчэ і прафесар гуманітарных навук. Спалучэнне шаленаватага мастака слова з строга лагічным навукоўцам. Прычым — каторы ўжо год старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", добры старшыня, які стабілізаваў гэту арганізацыю, прыдаў ёй перспектыву. Дык у каго ж, калі не ў цябе, запытаць мне пра сёлетняе саракагоддзе „Белавежы". Чатыры дэкады ў літаратурным жыцці — гэта не жарты. Як яны табою бачацца: першапраходчымі, эпахальнымі, з выразнымі перыядамі, ці неяк іначай?***

— Сапраўды, сорак гадоў — шмат часу для кожнай з'явы. Пройдзенае прымушае аглянуцца, задумацца — таксама і над перыядызацыяй. Няма сумніву, што нам самім таксама варта прабаваць парадкаваць ужо шматлікія літаратурныя факты на нашым пісьменніцкім загоне ды, пры нагодзе, прапанаваць іх уступную інтэрпрэтацыю. Сёё-тое на гэту тэму было ўжо сказана і мною, і табою, і Занеўскай. І надрукавана ў часопісах і кнізе. Але ж, вядома, гэта толькі пачатак. Падзел нейкага працэсу развіцця літаратуры на перыяды залежыць ад таго, чаго мы шукаем, што хочам выявіць: ці ўнутраныя (тэматычныя, стылістычныя, эстэтычныя і г.д.) дамінанты ў саміх творах, супольнасць творчых памкненняў, праграм; ці — наадварот — знешнюю залежнасць літаратурнага працэсу і фактаў ад грамадска-палітычных рухаў.

Раней мне здавалася, што „белавежская" гісторыя дзеліцца на чатыры перыяды. Зараз мне здаецца, што толькі на два-тры: 60-ыя і 70-ыя гады (перыяд кампрэсіі), 80-ыя гады — час застою і арганізацыйнай дэзарганізацыі (перыяд паўзы), ды 90-ыя — перыяд дэкампрэсіі. У першым перыядзе дамінуе эстрадная, патрыятычна-ідэалагічная і рытарычна-дыдактычная вершатворчасць, разлічаная на вушы (!) слухача (стадыёна, амфітэатра, кіназалы). Гэта, вобразна гаворачы, зорны час Алеся. — Трэці ж перыяд гэта, здаецца, раўнавага жанраў прозы і паэзіі, прычым паэзіі рэфлексіўнай, медытатыўнай, як і прозы, якія патрабуюць не вушэй, але вачэй, розуму і сэрца чытача, таго чытача, які любіць застацца з кнігай сам-насам. Дзевяностыя гады, відавочна, ёсць час Сакрата.

Перыяд кампрэсіі характарызуецца яшчэ і тым, што меў ён сваіх панегірыстаў-рэкламшчыкаў, а лідэра некаторыя журналісты „Нівы" набілітавалі несмяротным тытулам „наш паэт". Перыяд дэкампрэсіі мае сярод журналістаў зноў жа сваіх алілуйшчыкаў, але навыварат, тыпу адмаўляльнага (праз прамоўчванне або па-басяцку прамалінейна абухавата „ідзі нахер").




*З Янам Чыквіным у час адпачынку перад пачаткам літаратурнага вечара „Белавежы" на Старым Месце ў Варшаве, 18 лістапада 1994 г.*

У перыяд кампрэсіі як бы адчувалася, так мне зараз здаецца, своеасаблівы прымус пісаць (не ствараць) — многа і па шаблоне, па календарных датах. Перыяд дэкампрэсіі звольніў з абавязку ўсіх не толькі ездзіць на аўтарскія сустрэчы, але і пісаць што-небудзь нават. Па прынцыпе: калі можаш абысціся без пісаніны — не пішы! Вось чаму ў 90-ыя гады пачынаецца прафесіяналізацыя, і паміж творчымі асобамі і „нядзельнымі паэтамі" з'яўляецца разбежнасць інтарэсаў і расце штораз большая адлегласць.

***— Мне, асабіста, тыя сорак гадоў уяўляюцца цяпер не толькі як узнікненне новага фрагмента нацыянальнай літаратуры — скажам: польскай беларускай у адрозненне ад савецкай беларускай — але і як узнікненне новай літаратуры ў Еўропе. Не больш і не менш. Хацелася б, каб ты падзяліў са мною гэтую тэзу, і нават абгрунтаваў яе ў прафесарскім стылі. Згодны?***

— Пра ўзнікненне новай літаратуры ў Еўропе, калі маеш на ўвазе створанае за сорак гадоў „белавежцамі", можна разважаць толькі гіпатэтычна. Літаратура старой Еўропы надта шчыльна запаўняе ўсю сваю прастору і было б наіўна думаць, што хтосьці недзе саступіць нам сваё публічнае месца. Такое месца можна адно сілаю заваяваць, і зрабіць гэта мог бы для беларускай прыгожай пісьменнасці, напрыклад, другі Дастаеўскі. Я гавару пра публічную арэну. Бо ў навуковым свеце на еўрапейскім узроўні мы ўжо натаваныя (між іншым у саліднай шматтомнай працы пад назваю *Dzieje literatur europejskich*. Pod redakcją Władysława Floryana, PWN, Warszawa 1989), але ж таксама толькі як невялікі фрагмент адной беларускамоўнай літаратуры. І гэтакі падыход і правільны гістарычна і абгрунтаваны навукова. Немагчыма ўявіць сабе існаванне дзвюх беларускіх літаратур, а нам такая канцэпцыя і ў галаву не павінна прыходзіць.

***— Не ведаю, як табе, але мне цалкам відавочнае тое, што выхад пісьменнікаў „Белавежы" да польскага і наогул еўрапейскага чытача, зацікаўленне імі ў Расіі і на Захадзе, дае ўжо падставы гаварыць пра Польшчу як краіну дзвюх літаратур: польскай, натуральна, і беларускай. Немагчыма, каб ты з гэтым не пагадзіўся! Хаця б ад звычайнага гонару за сваё асяроддзе творцаў...***

— Тэза „пра Польшчу як краіну дзвюх літаратур", на маю думку, усяго толькі тэза, хоць вельмі ж спакуслівая сваёй нібыта поўнай наяўнасцю, насычанасцю рэальным зместам. То праўда, што з нацыянальных мяншынь Польшчы адно беларусы маюць у галіне мастацкай літаратурнай творчасці найбольш апублікаваных кніг. Гэта факт неаспрэчны, і з беларусамі ў польскай прасторы да гэтага часу ніхто не можа канкураваць — ні немцы і літоўцы, ні украінцы, ні славакі. І таму ў нас саміх узнікае ахвота падужацца з найбольшым літаратурным абшарам у Польшчы, польскай літаратурай. Аднак для нас карысней было б усё-такі, каб такое змаганне запрапанаваў нам, недзе пацíху, польскі бок. Бо калі мы самі будзем, упарта, выклікаць палякаў на такі паядынак, то гэта спачатку, праўдападобна, рассмешыць іх да болькаў у жываце, а потым кіне ў белую гарачку. Польшча ўсё яшчэ не мае магчымасці нацешыцца сваёй цэнтрабежнай культурай. Праз амаль паўвека яна змагалася з расійскімі ўплывамі, зараз яе берагі падмывае і нацыянальныя граніцы размывае ўсялякая заходняя бязглуздзіца. Ведаючы, аднак, польскую нацыянальную фанабэрыстасць, панскую гордасць у адносінах да ўсходніх славянскіх народаў, наўрад ці не прыйдзецца нам першым у такой сітуацыі атрымаць ад іх па зубах за спробу ў „іхняй хаце" быць сугаспадаром.

***— Раздумваючы пра „Белавежу", яе калісьці нікім не чаканую літаратурную кар'еру, шукаючы яснага адказу на пытанне, чаму ўсё гэта не скончылася ўсяго літаратурным гуртком, як у выпадку іншых нацыянальных меншасцяў у Польшчы, лічу, што вырашальным фактарам з'явіўся іншы наш тут экзістэнцыяльны лёс, як вынік існавання значнай этнічнай прасторы з жывою моўнаю стыхіяй, прасторы надта спецыфічнай у гістарычным, эканамічным, псіхалагічным ды светапоглядным планах. Вельмі непадобнымі мы былі да Польшчы. Непазбежная інтэграцыя перакрэсліць будучыню польскай беларускай літаратуры, пераўтварыўшы яе ў лепшым варыянце ў польскамоўную?***

— Пытанні надта істотныя: чаму ў Польшчы ўзнікла беларуская літаратура і чаму яна не затрымалася на аматарскім узроўні? Гэта тэма для глыбейшых культуралагічных, гістарычных і літаратуразнаўчых разважанняў ды аналізаў. Тут мне можна толькі эскізна нешта фармуляваць. Я сказаў бы так: беларуская літаратура ў Польшчы проста не магла **не** з'явіцца. Нельга ж уявіць сабе, каб 300—400-тысячнае наша насельніцтва, якое жыве ад вякоў на сваіх этнічных землях, якое мае свае нацыянальныя адметнасці ў архітэктуры, музыцы, звычаях, малітве, песні, танцах, штодзённым побыце і нават у краявідзе — каб яно не мела сваіх вучоных і пісьменнікаў. Беларускія літаратары ў Польшчы сваёй прысутнасцю ў свеце адлюстроўваюць глыбокую духоўную жыватворчасць сваёй нацыі.

А што тычыцца аматарства — трэба сказаць, што яно за ўсімі выдатнымі асобамі ў форме эпігонства і за літаратурнымі арганізацыямі, не толькі беларускімі, цягнецца доўгім шэра-бурым шлейфам, і ўцячы ад ягонай кампаніі немагчыма. Таксама нам. Гэта неадступны цень прафесіяналізму.

***— Сорак гадоў чамусьці хапала нам месячнай літаратурнай старонкі ў „Ніве", альманахаў час-часам, аўтарскіх выданняў. Нярэдка адбывалася барацьба за іх. Не было, аднак, барацьбы за „белавежаўскі" літаратурны часопіс, прынамсі штогодні, тоўсты, бы альманах. Гэта наша несумненная слабасць. Як ты мяркуеш: у чым прычыны такое абыякавасці асяроддзя да стварэння рэгулярнага выдання, у якім магчыма змяшчаць не адны кароткія формы?***

— Прычына, што не маем да гэтага часу свайго літаратурнага часопіса, выключна ў нас саміх, „белавежцах", між іншым, у табе і ўва мне, сяброў управы літаратурнага аб'яднання. Але з таго відаць — раней нас задавальнялі календары і публікацыі ў „Ніве". Цяпер жа стала ясна, што нашых інтарэсаў ніхто не рэпрэзентуе. Ні той, ні другі публікатар не спаўняе нашых патрэб і спадзяванняў. Вось і прыйшоў час рабіць сваё.

**Гутарыў Сакрат ЯНОВІЧ**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


# Другі „б" з Нараўкі

— У нашым класе амаль кожны другі вучань ходзіць на заняткі па беларускай мове! — хваліцца Мартына з Міклашэва. — Васмёра з дваццаці!

Хлопчыкаў і дзяўчатак тут пароўну — па дзесяць. Сустракаю іх амаль усіх пасля ўрокаў — чакаюць школьнага аўтобуса, гуляюць з настаўніцай на калідоры. Ахвотна хочуць падзяліцца навінамі, а на здымак то ўжо абсалютна ўсе хацелі б „увайсці"! На жаль, не ўсе сёння ў школе з тых, хто „ходзіць на беларускі", дык даюць мне здымак усяго класа.




Сярод вучняў — дзяўчынка, якую на ўрокі беларускай мовы прывяла Мартына Леанеўская — Іза Вайцяхоўская. Іза ніколі раней не размаўляла па-беларуску. Спадабалася.

— Тут слухаем цікавыя песенькі. Можам навучыцца іншае мовы. Многа літар падобных на польскія, — заўважае Іза, а пасля кажа верш пра гусачак, што ідуць на ваду.

Кася Сухадола, найвышэйшая асоба ў класе, ведае вельмі шмат слоў. Да пераліку далучаюцца іншы вучні. Найбольш кемліва азываецца Адрыян Барэчка з Плянты. Ён расказвае пра выхавацельку — паню Весю Герасімюк, настаўніцу паню Мірку Керсноўскую. У школу прыязджае ён аўтобусам. Дзед і баба з ім дома размаўляюць па-польску.

— А калі б ты да іх загаварыў пабеларуску?

— Пэўна, здзівіліся б.

— А хто загадаў табе хадзіць на заняткі беларускай мовы?

— Ніхто, сам пайшоў.

Мартына ўспамінае, як яе брат Канрад першы раз загаварыў „папросту" (ён цяпер у нулявы клас ходзіць). На канікулах быў у дзядзькоў у Баравых. Там беларускую мову чуў, разумеў, ды саромеўся загаварыць: не так скажу, то смяяцца будуць! А вярнуўся дадому, ды адважыўся перад... коцікам! Запытаўся ў яго, ці не хоча есці, запрапанаваў яму булачку з малаком. А пачуў гэта сусед і вельмі гэта яго рассмяшыла! Дзіваком ён палічыў хлопчыка, ці што?

Знаёмцеся! На здымку, у першым радзе знізу: другая злева — Наталля Вярбіцкая, трэцяя — Юліта Вярбіцкая, чацвёртая — Іза Вайцяхоўская. У другім радзе: другая злева — Наталля Садоўская, трэці — Адрыян Барэчка, пятая — Мартына Леанеўская. У верхнім, трэцім радзе: трэцяя злева — Святлана Дрозд, чацвёртая — Кася Сухадола.

**Міра Лукша**

# Янка Купала

Нарадзіўся ў 1882 годзе ў сям'і арандатара фальварка Вязынка Вілейскага павета. У сапраўднасці называўся ён Іван Луцэвіч, аднак усе свае паэтычныя творы падпісваў псеўданімам Янка Купала і пад такім прозвішчам увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры як наш нацыянальны паэт.

У 1898 годзе скончыў народнае вучылішча, пару гадоў працаваў хатнім настаўнікам, пісарам у судовага следчага ў Радашковічах, памочнікам адміністратараў маёнткаў на Навагрудчыне. У 1908 годзе стаў супрацоўнікам „Нашай нівы", дзе публікаваліся яго першыя творы, а ў 1914-1915 гадах быў рэдактарам гэтага беларускага тыднёвіка. Падчас I сусветнай вайны служыў у царскай арміі, у 1919 годзе прыехаў у Мінск, дзе жыў да пачатку нямецкасавецкай вайны 1941 года. Удзельнічаў у стварэнні Акадэміі навук, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, нацыянальнага тэатра. Праўдападобна быў забіты органамі савецкай бяспекі ў Маскве летам 1942 года.

Янка Купала, як католік, пачынаў пісаць па-польску. Першы верш „Мужык" надрукаваў аднак у 1905 годзе на беларускай мове ў рускай мінскай газеце „Северно-Западный край". У 1908 годзе вядомае беларускае выдавецтва ў Пецярбургу „Загляне сонца і ў наша ваконца" выпусціла яго першы зборнік вершаў „Жалейка". Пасля паэтычныя зборнікі паэта друкаваліся даволі часта. Разам атрымалася пару дзесяткаў выданняў. У 1927 годзе надрукавана была першая паэма Купалы „Магіла льва", а ў 1933 годзе наступная — „Над ракою Арэсай". Янка Купала пісаў таксама тэатральныя п'есы — „Адвечная песня", „Сон на кургане", „Паўлінка", „Тутэйшыя". Перакладаў на беларускую мову творы польскіх і рускіх пісьменнікаў.

Янка Купала быў адным з айцоў беларускага нацыянальнага адраджэння, у сваіх вершах, п'есах, паэмах, драмах расказваў пра нацыянальны характар беларусаў, як ніхто іншы паказаў прыгажосць беларускай зямлі і харектво душы людзей, якія на ёй жылі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 8

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Cyrk | ▼ | Moda | ▼ | Ogrodzenie |
| Brzuch | | Ukrop | | |
| ► | | ▼ | | ▼ |
| | | | | |
| Rzędy | ► | | | |
| Ekran | | | | |
| ► | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 4:**

Клей, джала, анучка, дзежка, каалін, жыд, Омск, рот, жанр.

Жар, джаз, анекдот, лужа, качка, калька, яда, жняяр.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі: **Марыля Тапалеўская**, **Арэк Ільяшук і Марцін Тапалеўскі** з Кленік. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

# Белы лебедзь

Даўным-даўно, у адной мясціне жыла бедная сям'я. Працавала яна ў фальварку пана. Дзеткі пасвілі кароў ды памагалі ў сенаванні.

Сям'я жыла ў старой хатцы непадалёк лесу. Кармілася сціпла, бо малака ад старэнькай кароўкі ледзь малечам хапала. Дзеці любілі сваю кароўку. Кожнай раніцы выганялі яе на лясную паляну, каб там наелася сакавітай травы ды напілася чыстай вадзіцы ў ручаі. Маці на развітанне цалавала дзяцей і наказвала:

— Ніколі не ідзіце за ручай, бо там жывуць лютыя звяры і могуць зрабіць вам крыўду.

Аднойчы, калі Аня і Андрэй, лежачы на траве, пасвілі кароўку, убачылі нейкую яснасць. Быццам сонца, заззяла нешта за ручаём. Дзеці рашылі пайсці і пабачыць тое дзіва.

Калі апынуліся на месцы, пабачылі чараду розных звяроў, якія акружылі белага птаха. Птах, белы як снег, трапятаўся ў пастцы. Гэта быў лебедзь. Ён чалавечым голасам прасіў у звяроў дапамогі. Але тыя не мелі сілы, каб адчыніць пастку.

Тады лебедзь папрасіў Аню і Андрэя, каб дапамаглі яму.

— Мне трэба абагрэць яйкі ў гняздзе. І толькі вы, дзеткі, можаце мяне вызваліць. Інакш загінуць мае дзеці і род.

— Добра, — кінуліся дапамагаць сястра з братам.

Яны ўзялі вялікі камень і пачалі разбіваць смертаносную прыладу. Пасля доўгага змагання пастку адчынілі. Вызвалены лебедзь радасна замахаў белым крыллем. Узрадаваныя дзеці падаліся зноў на сваю паляну.

— Даражэнькія, — паклікаў іх назад белы птах. — Вам ад мяне гасцінец належыцца. Загадайце, калі ласка, свае жаданне.

Дзеці не чакалі такога павароту справы. Анясмеленыя сказалі:

— Нам хопіць, каб наша сям'я была заўсёды сытая і здаровая.

З таго часу ў сям'і Ані і Андрэя панаваў дастатак.

**Аня Пракапюк з Трывежы, VII кл. ПШ у Новым Корніне**

Талон „Зоркі" № 8
01.03.1998

# Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Піша Табе вучань восьмага класа Пачатковай школы ў Новым Корніне **Марцін Мялешка**. Хачу Табе расказаць пра маё калядаванне.

Мы пачалі калядаваць у 10[00] гадзін раніцы. Найперш у сваёй вёсцы. У кожнай хаце стаяла ёлка. Калядавала нас чатыры асобы: я, Адам, Павел і Юрка. Хадзілі мы з гвяздай. Калядавалі ў вёсках: Катоўка, Ласінка, Рэпіскі і Васількова. Мы развучылі такія калядкі як: „Раждзаство Хрыстова", „З Новым рокам", „Новая радасць стала".

Напэўна пайду калядаваць яшчэ не раз.

**Марцін Мялешка**

**Прывітанне, „Зорка"!**

Пішуць Табе дзяўчаты з Чыжоў. Мы хацелі б падзякаваць Табе за тое, што запрасіла Ты нас на XII Сустрэчу „Зоркі" ў Нарве. Сустрэча вельмі нам падабалася. Мы сустрэлі там вельмі цікавых людзей. З прыемнасцю слухалі вершаў Віктара Шведа. Самымі цікавымі хвілінамі паказаліся нам вечарыны, якія адбываліся кожны дзень. Арганізатары падзялілі ўсіх дзяцей на тры тэатральныя групы. Гэтыя групы рыхтавалі спектакль, які быў пастаўлены ў суботу — 7.02.1998 года. Прыйшло многа зацікаўленых людзей, а і мы з вялікай радасцю ігралі свае ролі. Карыстаючыся нагодай, мы хацелі б прывітаць усіх апекуноў і ўдзельнікаў XII Сустрэчы „Зоркі".

**Юліта Гаўрылюк, Агнешка Качаноўская**

# „Роднае слова" ў Гайнаўцы

*Няма дрэва без караняў,*
*Няма чалавека без мовы матчынай...*

Удзельнікі конкурсу выступілі ў трох катэгорыях: нулявы — III класы, IV — V класы і VI — VIII класы. Агулам да конкурсу прыступіла 80 удзельнікаў са школ у Дубічах-Царкоўных, Арэшкаве, Кленіках, Нараўцы, Дубінах, Кляшчэлях, Чыжах, Новым Корніне, Махнатым, Нарве, Ласінцы, Крыўцы, Трасцянцы ды са школ н-р 1, 2 і 6 у Гайнаўцы. Некаторыя школы (Дубічы-Царкоўныя і Нарва) дадатковыя элімінацыі конкурсу праводзілі ў сябе.

Удзельнікі дэкламавалі выдатна — на паперы гэтага не выкажаш, трэба было паслухаць самому. А вось вынікі конкурсу.

<u>**Наймалодшая катэгорыя**</u>

(28 удзельнікаў):

— тры першыя месцы: Магдалена Чыквін (Гайнаўка, ПШ н-р 2), Барбара Каліноўская (Гайнаўка, ПШ н-р 6) і Аня Дудзіч (Ласінка);

— тры другія месцы: Марыюш Шышкевіч (Нарва), Агата Васільчыц (Нараўка) і Івона Крук (Новае Корніна);

— чатыры трэція месцы: Агнешка Врублеўская (Кленікі), Кася Федарук (Кляшчэлі), Пauліна Яканюк (Чыжы) і Магдалена Куптэль (Гайнаўка, ПШ н-р 1);

— пяць вылучэнняў: Тамаш Чэга (Трасцянка), Аляксандра Бяляўская (Нараўка), Кінга Дрозд (Нараўка), Іаанна Баўтручук (Ласінка) і Рыгор Плева (Гайнаўка, ПШ н-р 6);

— спецыяльная ўзнагарода: Магдалена Дудзіч (Ласінка).

<u>**Сярэдняя катэгорыя**</u>

(18 удзельнікаў):

— два „Гран-пры": Наталля Кос і Паўліна Пашко (абедзве з ПШ у Ласінцы);

— два першыя месцы: Юліта Федарук (Гайнаўка, ПШ н-р 6) і Анэта Трафімюк (Кленікі);

— другое месца: Паўліна Пашко (Гайнаўка, ПШ н-р 6);

— два трэція месцы: Паўліна Васілюк (Гайнаўка, ПШ н-р 2) і Аня Кісла (Нараўка);

— вылучэнне: Юстына Кісялеўская (Нараўка).

<u>**Найстарэйшая катэгорыя**</u>

(34 удзельнікі):

— тры першыя месцы: Анэта Яканюк (Нарва), Бэата Мінько (Ласінка) і Андрэй Календа (Кляшчэлі);

— два другія месцы: Аня Крук (Новае Корніна) і Наталля Карзуновіч (Чыжы);

— тры трэція месцы: Пятро Вошчанка (Дубіны), Ева Галавачык (Гайнаўка, ПШ н-р 6) і Бася Харкевіч (Нараўка);

— два вылучэнні: Наталля Лемеш (Гайнаўка, ПШ н-р 1) і Уршуля Вяршко (Гайнаўка, ПШ н-р 2).

**Міхал Голуб**

# Міфы старой Беларусі

**21. Кікімара**

Кікімара або Вешчыца — здань жаночага полу. Жыве яна ў хаце, дзе адбыліся забойствы дзяцей. Кікімара юнага ўзросту. З-за сваёй дзяцячай свядомасці, зусім забываецца пра мэты знаходжання ў доме. Яна загульваецца, то перашкаджае жыхарам валтузнёй, ад якой чувацъ шум, піск і віск.

Кікімары выказваюць невыносную зайздрасць, калі сустрэнуць маці, якая лашчыць немаўля. Яны жаласна ўздыхаюць і стараюцца заваладаць мацярынскай любоўю. Каб прыдобрыцца жанчынам, яны накідаюцца ноччу на пражу або шытво і працягваюць работу. Мэта аднак не дасягаецца, крывыя і няўмелыя швы ды нароўнасць выпрадзеных нітак найхутчэй хвалюе гаспадыню.

У імгненні, калі Кікімары прымаюць цялесны воблік, іх няцяжка злавіць і разгледзець. Калі здагадлівы чалавек хуценька выстрыжа ў Вешчыцы валасы на цемені крыж-накрыж, яна назаўсёды застанецца чалавекам. Праўда, будзе яна расці і сталець як чалавек, але не пазбегне недахопаў — непрапарцыянальнасці органаў, касавокасці, нематы, благой памяці і розуму. З часам такая Кікімара забывае пра сваё былое жыццё.



*Юліта і Агнешка ў сцэны „Фаўст" ігралі ролі чараўніц.*

# Пачынаецца ўсё з любві

***(пачатак у папярэднім нумары „Зоркі")***

*(Спевакі хаваюцца за куртыну. На сцэну выходзіць Жанчына-каханка).*

**Жанчына-каханка:** *(гаворыць па-тэлефоне)*. Алё? Гэта ты Янка? Змагу... Так. Я таксама... Што? Не, не! Ніколі раней не прыходзіць. Чаму? Ну, добра, добра. Сумленне? Я яго сапраўды кахала. Думала, гэта першае і апошняе каханне. Чакала яго вечарамі. Але як толькі пабачыла цябе... Мушу канчаць. Да наступнага вечара.

*(Жанчына-каханка сыходзіць. На сцэну ўрываецца Жанчына-ідыётка.)*

**Жанчына-ідыётка:** Даражэнькая! Справа ў тым, каб сукенка была простая, вельмі простая, але элегантная. І гэтая элегантнасць заключаецца ў прастаце, а прастата заключаецца ў элегантнасці. Патрабую звычайнай, ну, самай звычайнай сукенкі. Перад просты, толькі тут *(паказвае на талію)* крышку фальбанак, шчыпанак, маланак, але ледзь-ледзь... Каб было відаць, і таксама, каб не было відаць. З боку плiска, тут падморшчыць, там падцягнуць, тут падабраць, там падагнуць, тут разрэз, там прышпіліць, тут закрыць. Рукаў з манжэтам, манжэт з кветам, з букетам, тут енікі, бенікі. Каўнер белы ў зубочкі, грыбочкі, васілёчкі... Ну і ўсё, здаецца?!... Ну, як найпрасцей, а маланку я сама куплю, ёсць у краме...

*(Выходзіць, але зараз жа вяртаецца і дадае)*. Або, купі даражэнькая: метр дзевяноста... *(Знікае. На сцэну выходзіць Жанчына-лекар).*

**Жанчына-лекар:** 91, 92, 93, 94, 95, 96... Пульс 96. Ну, ужо добра. А тэмпература?! Пакажыце. Нармальная. Вельмі добра. Усё будзе ў парадку, не плачце... А цяпер вазьміце лекі і лягайце спаць... Спаць...

*(Адыходзячы паўтарае)*. Спаць, спаць, спаць...

*(На сцэну выходзіць хор і спявае на мелодыю баллады).*

Шапоча ў лісцях вецер,
Вакол паснулі ўсе.
На небе месяц свеціць,
Чароды хмар пасе.
Ён гоніць іх к зарніцы,
На зорны вадапой.
Чаму табе не спіцца?
Не бойся, я з табой.
Шапоча ў лісцях вецер,
У ззянні светлячкоў.
На небе месяц свеціць,
Свет зорных маячкоў.
Мкнуць хмары да зарніцы,
На зорны вадапой.
Чаму табе не спіцца?
Не бойся, я з табой, я з табой...

*(На апусцелую сцэну выбягае Дзяўчына-дыскатэка).*

**Дзяўчына-дыскатэка:** *(узбуджана)*
Я з табой, хіба жартуеш?
Ну, знікні з маіх вачэй!
Як зараз трэсну, дык пачуеш,
А мне тады будзе лягчэй.
Не думай, хлопцаў больш на свеце,
Не ты адзін, не забывай.
Цяпер скажу табе ў сакрэце,
Паслухай іншых, праўду знай.

*(Выходзіць. На сцэне паяўляецца Жанчына-зорка кіно).*

**Жанчына-зорка:** *(спявае на мелодыю самбы)*
Як правёў мяне Цімох, ох, ох, ох!
Была цёмна на дварох, ох, ох, ох!
Мой Цімошка, ты гуляй, ай, ай, ай!
А ён кажа пачакай, ай, ай, ай!

*(Салістка прадстаўляе наступную страфу мімікай і танцам).*

**Гітарыст:** *(спявае)*
Хоць хвіліначку пастой, ой, ой, ой!
Пагаворым мы з табой, ой, ой, ой!
Я ж казаў не для пацех, эх, эх, эх!
Што люблю я не на смех, эх, эх, эх!

**Жанчына-зорка** *(спявае):*
Сэрца стукнула ў грудзях, ах, ах, ах!
Яшчэ пойдзе па людзях, ах, ах, ах!
Не цалуй мяне дальбог, ох, ох, ох!
Адчапіся ты, Цімох, ох, ох, ох!

*(Выходзіць. На сцэне паяўляюцца Анёл і Чорт).*

**Чорт:** Бог даў ёй святасць, а я грэх ёй даў. І з гэтай прычыны мужчынскі род паў.

Святая...
**Анёл:** І грэшная...
**Чорт:** Добрая...
**Анёл:** І злая...
**Чорт:** Палын...
**Анёл:** Або мёд...
**Чорт:** Ласкае...
**Анёл:** Кусае...
**Чорт:** Анёлам бывае...
**Анёл:** Чортам бывае...
**Чорт:** І кім яшчэ толькі...
**Анёл:** А хто яе знае?
**Чорт:** Бывае пустая...
**Анёл:** Або як без дна...
**Чорт:** Канец.
**Анёл:** І пачатак.
**Чорт і Анёл:** ЖАНЧЫНА.
*(У вакне паяўляецца дзяўчына)*
**Дзяўчына:** Вось я.

***(працяг будзе)***

З V Фестывалю „Беларуская песня '98"

# Наперад выходзіць моладзь



Спяваюць вялікія, прыгожыя „Каласкі".

Ну, і сталася. Цяпер ніхто ўжо не зможа сказаць, што сёння ў нас спявае беларускую песню адно „старонцэ". Моладзь малапамалу, але няўхільна выцясняе са сцэны носьбітаў аўтэнтычнага фальклору. Яшчэ гадоў пяць-дзесяць, а ўжо не пачуеш старадаўняй песні ў адэкватным выкананні, ад тых людзей, для якіх была яна яшчэ неабходнай у будні і ў святы, ад нараджэння — аж да смерці.

І таму такімі бурнымі апладысментамі сустракае публіка фальклорныя калектывы, якія працуюць самі, без ніякіх інструктараў, якія спяваюць, бо песня выплывае з іх сэрцаў. Яны ўжо становяцца жамчужынамі ў беларускім меласе Беласточчыны, якія трэба вылаўліваць асцярожна і клапатліва, каб не згубіць і не расцярушыць такога хараства.

Моладзь прабуе пераймаць народныя традыцыі, прадстаўляць старадаўнія песні ў модных, сучасных рытмах — і гэта цэніцца. Не кожнаму, аднак, гэта ўдаецца так, як неіснуючаму ўжо беластоцкаму калектыву „Альбаросіка" з яго незабыўнай „Пташачкай", альбо „Чарамшыне" з Чаромхі.

Амаль пяць гадзін (хаця кожны выканаўца спяваў сёлета па адной, а не па дзве песні) працягваўся цэнтральны агляд „Беларуская песня '98", які прайшоў 15 лютага 1998 года ў Гарнізонным клубе ў Беластоку. Быў гэта як бы другі этап V Фестывалю, які складаўся з пяці раённых аглядаў, цэнтральнага, ну, і гала-канцэрта.

Аматары роднай песні прыйшлі сюды надоўга, некаторыя нават узялі з сабою бутэрброды і дыскрэтна перакусвалі ў часе перапынку. А што, кажуць, было шмат пенсіянераў — цяжка дзівіцца: білеты на цэнтральны агляд былі ў чатыры разы таннейшыя чым на гала-канцэрт, а гэта мае немалое значэнне для небагатай пенсіянерскай кішэні.

Як мы ўжо адзначылі, наперад высоўваецца моладзь, і гэта пераконвае найгоршага малькантэнта ў неўміручасці беларускай песні. Ужо многа гадоў не сыходзяць са сцэны вучні Гайнаўскага і Бельскага ліцэяў і, хаця заўважаецца тут непазбежная змена кадраў, то бесперапынку калектывы папаўняюцца новымі сіламі.

Сёлета, як і штогод, ліцэі выступілі з багатай праграмай і разнастайна. З Бельскага беларускага ліцэя спявалі „Дзявочыя ноткі", салісткі Анна Хадакоўская і Юліта Такарэўская, (мастацкі кіраўнік — Сяргей Лукашук), з Гайнаўскага — вакальна-інструментальны калектыў, салісткі Іаанна Масайла, Ілона Карпюк, ды дуэт: Эва Акочук, Іаанна Масайла (мастацкі кіраўнік — настаўніца Бажэна Леўчук).

Бліснула некалькі гадоў таму маладзёжная „Чарамшына", нязвыклая, харошая, народная, і, на шчасце, не згасла, а дае нам асалоду да сёння (на Фестывалі выступілі з народнай песняй „Ехаў Ясь"). У Беластоку пад кіраўніцтвам Алы Дубец узнік вялікі маладзёжны калектыў „Каласкі", а сёлета на Фестывалі зачаравалі яны прысутных сваімі „Азёрамі дабрыні".

На аглядзе выступіла таксама маладзёжнае трыо „Пронару" з народнай „Пташачкай" (на эстрадны манер). У старых калектывах паяўляецца новы „нарыбак": калектыву „Хлопцы-рыбалоўцы" прыбыў новы член — Марк Шыплюк, вучань VIII класа, а калектыву „Васілёчкі" — дзве сяястрычкі — 4,5-гадовая Марта і 7-гадовая Эмілька Далінскія. Меншая падыгрывае на трашчотцы, а старэйшая — на валкаўніцы.

А як патрэбныя на Беласточчыне эстрадныя калектывы (на аглядзе выступілі два: „Ас" і „998"), якія аднолькава маглі б спяваць па-беларуску і па-польску, бадай, не трэба пераконваць нікога. Вось запрасіць такі калектыў пайграць у нас на вяселлі — дык там свае песні — як мёдам па сэрцы!

Нават канферанс быў малады: вялі канцэрт Эля Рудчук і Галінка Іванюк, у якой на канцэрце была амаль уся сям'я — мама ж і тата спявалі ў чыжоўскім калектыве, а брат быў слухачом.

Ну, а што датычыць тых „жамчужын" (маладыя, беражыце іх: непрыхільнасць да народных песень бярэцца з нашых комплексаў вяскоўцаў), дык і яны яшчэ не пераваліся. Выступіў жаночы калектыў з Паўлаў, „Арэшкі" з Арэшкава, „Красуні" з Краснага Сяла, „Тыневічанкі" з Тыневіч-Вялікіх, „Любашкі" з Дабрывады, „Каліна" з Дашоў, „Чыжавяне" з Чыжоў, „Незабудкі" з Курашава, „Збучанкі" са Збуча, „Крыўчанкі" з Крыўца, „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай, калектыў з Малінікаў, новы калектыў „Рэчанька" з Козлікаў, калектыў „Родына" з Дубяжына, які на аглядзе так прафесійна, так сардэчна заспяваў беларускую народную песню „Ой, ты лозанька", што я (грэшным дзелам) падумала, ці не пастанавілі яны вярнуцца ў сваё беларускае рэчышча...

Колькі ўжо беларускіх хароў на Беласточчыне! Беластоцкі хор, хор Гайнаўскага дома культуры, два калектывы з Бельска — „Маланка" і „Васілёчкі", гарадоцкі хор ды іншыя. Як вырaслі „Цаглінкі" са Старога Ляўкова (якраз святкуюць сваё дваццацігоддзе), як нястомна працуюць з калектывамі Люба Гаўрылюк і яе дачка Ала Дубец! А калектыў „Арляне" з Орлі — ці чулі вы яго?!

Неспакушанаму чалавеку цяжка было б нават разабрацца ва ўсім гэтым, бо ў канцэрце было аж 67 пазіцый. Ну, але неяк усё ж разабраліся...

## Вынікі цэнтральнага агляду „Беларуская песня '98"

Журы пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага, дырэктара Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору РБ імя Генадзя Цітовіча **прызнала выканаўцам** наступныя месцы і ўзнагароды:

**У катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні**

*Салісты*

I месца — Антаніне Сідарук з Дабрывады;

II — Ніне Цыванюк з Гарадка і Еўдакіі Маркевіч з Дашоў;

III — Валянціне Франкоўскай з Тыневіч-Вялікіх і Кацярыне Ціханюк са Збуча.

*Дуэты, трыо, квартэты*

I — месца — Анне Раманюк, Вользе Кандратовіч з Дубяжына;

II — Валянціне Марціновіч, Галіне Грабарук з Краснага Сяла;

III — квартэту „Каліна" з Дашоў і „Любашкам" з Дабрывады.

*Вакальныя калектывы*

I месца — калектыву „Родына" з Дубяжына;

II — „Арэшкам" з Арэшкава і „Красуням" з Краснага Сяла;

III — калектыву з Паўлаў і калектыву з Маліннікаў.

**У катэгорыі апрацаванай фальклорнай песні**

*Салісты*

I месца — Уладзіміру Іванюку з Беластока;

II — Але Мядзведзь з Гайнаўкі;

III — Аляксандру Раманюку з Дубяжына.

*Дуэты, трыо, квартэты*

I месца — дуэту: Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк ды мужчынскаму квартэту з Чыжоў;

II — дуэту: Яўген Матвеюк, Аляксандр Максімовіч з Беластока;

III — дуэту: Валянціна Франкоўская і Ніна Савіцкая з Тыневіч-Вялікіх ды дуэту: Зіна Сакалоўская і Люба Гаўрылюк з Козлікаў.

*Вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы*

I — месца — мужчынскай групе хору БГКТ і мужчынскай групе хору Гайнаўскага дома культуры;

II — гарадоцкаму хору, жаночай групе хору БГКТ, калектыву „Цаглінкі" са Старога Ляўкова;

III — мужчынскаму калектыву з Бельска-Падляшскага пад кіраўніцтвам Ірынея Лаўрашука, калектыву „Чыжавяне" з Чыжоў і „Рэчаньцы" з Козлікаў.

*Вакальна-інструментальныя калектывы*

I месца — калектывам „Чарамшына" з Чаромхі і „Маланка" з Бельска;

II — калектыву „998" і калектыву з Гайнаўскага беларускага ліцэя;

III — калектыву „Ас".

**У катэгорыі сучаснай песні**

*Салісты*

I — месца — Але Дубец з Беластока;

II — Святлане Кобус з Бельска і Іаанне Масайла з Гайнаўскага беларускага ліцэя;

III — Анне Хадакоўскай і Юліце Такарэўскай з Бельскага беларускага ліцэя;

вылучэнне — Юрку Налівайку з Беластока.

*Дуэты, трыо, квартэты*

I месца — трыо „Пронару";

II — дуэту: Эва Акочук, Іаанна Масайла з Гайнаўскага беларускага ліцэя;

III — дуэту: Магдалена Маслоўская, Кацярына Рыдзэўская з Беластока.

*Вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы*

I месца — калектыву „Каласкі" з Беластока і калектыву „Арляне" з Орлі;

II — калектыву „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя.

**Хоры**

I месца — хору БГКТ з Беластока і хору „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага;

II месца — хору Гайнаўскага дома культуры.

Спецыяльную ўзнагароду журы прызнала калектыву „Хлопцы-рыбалоўцы" — за мастацкія пошукі.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

PS. Даражэнькія выканаўцы! Неяк у апошнія гады вы перасталі падаваць аўтараў песень, якія вы спяваеце. Іншая справа — калі песня народная. Тады яе складаў народ. А так аўтары могуць пакрыўдзіцца. Інструктары, якія прапануюць рэпертуар, павінны задбаць пра гэта.

**А. Ч.**



Высветлілася, што маладыя патрапяць, ды яшчэ як! Агляд вялі Галінка Якімюк і Эля Рудчук.

# Даіграецеся!

**Справаздача з 12 Сустрэч „Зоркі” ў радыёперадачы „Пад знакам Пагоні”. Журналіст знайшоў субяседніка, які ўжо восьмы раз удзельнічае ў гэтым мерапрыемстве і паставіў яму пытанне: „Скажы, калі ласка, як было на Сустрэчах „Зоркі” восем гадоў таму?” Гэта не толькі ігнаранцтва журналіста, але і доказ, што ініцыятыва маёй рэдакцыйнай сяброўкі Ганны Кандрацюк упісалася ў свядомасць беларускага грамадства Беласточчыны. Прынамсі таго, якое крыху чытае.**

Ідэю, як кажа Ганна, прыдумала разам з Лёнікам Тарасэвічам у маі 1995 года. А першыя Сустрэчы прайшлі ўжо ў жніўні, у Меляшках каля Гарадка. Вучні гарадоцкае школы і карэспандэнты „Зоркі” з усёй Беласточчыны размалявалі іконкамі вялікі драўляны крыж у сярэдзіне вёскі. Потым такія крыжы стануць у Каленіі Меляшкі, Бельску — адзін каля „тройкі” і другі каля дома Яраслава Кастыцэвіча — у Студзіводах. У чарзе чакаюць Белавежа, Грынеўічы-Вялікія, Рыбалы.

Разам з Сустрэчамі памянялася і сама старонка для дзяцей „Зорка”. З'явілася група пастаянных супрацоўнікаў, якія апісваюць цікавыя падзеі ў іхніх школах, мясцовасцях, асяродзях. Школьнікі часцей сталі дасылаць свае першыя літаратурныя спробы і запісаныя ад старэйшых мясцовыя легенды. Чытачы „Зоркі” — заўсёды для нас вельмі важныя — зрабіліся найважнейшай групай уплыву. Ад іх атрымліваем найбольш лістоў: з развязкамі крыжаванак, з адказамі на шматлікія конкурсы і загадкі, з першымі журналісцкімі допісамі.

Тым часам развівалася і ўзбагачалася формула Сустрэч „Зоркі”. Іх удзельнікі ведаюць, што не было двух падобных мерапрыемстваў. Былі Сустрэчы мастацкія, журналісцкія, фальклорныя, тэатральныя. Былі выезды ў Гданьск і фальклорныя маршруты па Бельшчыне. Сустрэчы з цікавымі людзьмі, знаёмствы з аднагодкамі, сяброўствы, а пэўне ж і першыя каханні.

* * *

Едучы ў Нарву на фінал Сустрэч, меў я ў памяці ашаламляльны гратэскавы спектакль „Песня астаецца ў сэрцы”, пастаўлены ў тамашнім гатэлі „Пад акацыяй” роўна год раней. Цяжка будзе, думаў я сабе, паўтарыць той мінулагодні тэатральны поспех. Бо ж нічога „не бывае двойчы”.

Аднак, нікому з удзельнікаў сёлетніх Сустрэч нават у галаву не прыйшло аглядацца на мінулую славу. Падрыхтавалі яны ад пачатку і да канца зусім новы тэатр. Менш шалёны за мінулагодні, але затое больш спелы, дапрацаваны ў дэталях, які патрабаваў і ад гледача інтэлектуальнага высілку.

У першай частцы можна было паглядзець алегорыю жанчыны, а стрыжнем таго, што адбывалася на сцэне быў верш Юліяна Тувіма „Эва”. Другая частка — варыяцыі пра каханне — замыкалася клямарам з верша Яўгеніі Янішчыц: „пачынаецца ўсё з любві”. За пяць дзён былі зроблены класныя пераклады, напісаны арыгінальныя ролі, тэксты песень і музыка. Склалі яны адну завершаную цэласць разам з тэкстамі класікаў — Шэкспір, Гётэ, Міцкевіч — і нават фальклорнай творчасцю.

Як і летась бліснулі акцёрскім талентам Жанэта Роля, Уля Тарасэвіч, Аня Фіёнік, Міхась Сцепанюк (сёлета бліснуў намнога ярчэй). Да іх дайшлі новыя таленты з тэатральных групаў з Ягуштова і Бельскага дома культуры ды адкрыцці Сустрэч: Пятрусь Клімец — „Рамэа” з Белавежы і абсалютна непрадказальная бомба — Чарусь Хіліманюк з бельскай „тройкі”. Здольныя акцёры ў інтэлігентным спектаклі. Адным словам, рай для публікі.

Але, увага! Святая Інквізіцыя не спіць! Паявіліся чуткі, што вартавыя маралі на нашым панадворку ўбачылі (пэўна тэлепатычна) у Сустрэчах „Зоркі” дэмаралізацыю моладзі. Яшчэ, не дай Бог, возьме такі 13-гадовы жэўжык і загаворыць у цэнтры Бельска па-беларуску.

Аж страх падумаць, што вырасце з маёй дачкі, якая першы раз падвяргласа дрэннаму ўплыву ў паўтара гадзіка.

**Мікола Ваўранюк**

# Як адпачывалі дубіцкія вучні

Гмінны асяродак культуры ў Дубічах-Царкоўных супольна з школай вырашылі арганізаваць у час зімовых канікул адпачынак для дзяцей з маламаёмасных сем'яў. Арганізатары вырашылі, што вучні будуць адпачываць не толькі ў школе, але паедуць на экскурсіі ў суседнія мясцовасці. Ахвотных было многа, але такой формай адпачынку пакарысталася толькі 20 дзетак. Амаль палову састаўлялі вучні з мнагадзетных сем'яў, у якіх вельмі цяжкія матэрыяльныя ўмовы жыцця.

Ужо на першы дзень канікул, 26 студзеня, вучні сустрэліся ў школе. Маладыя, супольна з апекуном школьнага адпачынку, настаўнікам Юрыем Назаруком, абмяркоўвалі план экскурсій, рэйдаў і розных гульняў. Чыстае дубіцкае паветра і снег на дварэ не дазвалялі доўга сядзець у памяшканні. Шпацыр па ваколіцы і лясныя гульні вучні ўспрынялі вельмі станоўча. Хаця ўзрост дзяцей быў розны (ад I па VIII клас), усе гулялі вельмі ахвотна. Пасля смачнага абеду, які штодзённа рыхтавалі ў школе, адбыўся мастацкі конкурс звязаны з марамі вучняў. Як паведаміў кіраўнік групы, дзеці марылі аб уласным доме і экскурсіях у далёкія краіны. У час наступных сустрэч іх мары маглі здзейсніцца толькі часткова. Арганізатары прадбачылі дзве экскурсіі, але ў суседнія гміны. Паездку ў Гайнаўку спалучылі з экскурсіяй у лес. Некаторыя вучні першы раз наведалі Беларускі музей. Фільмы, якія глядзелі ў музейным кіно, былі цікавыя, але хіба больш уражанняў даставіў шпацыр у напрамкуляснай чыгункі. Паколькі пасля абеду дзеці раз'язджаліся дамоў, свае ўражанні маглі выявіць толькі на наступны дзень. Усе выконвалі малюнкі звязаныя з фільмамі. Гульні ў школе спалучаны былі з падрыхтоўкай да балю-маскараду, дзе найважнейшая — вопратка. Адукацыйны характар мела сустрэча з мясцовым доктарам. Асабістая гігіена, здароўе вучняў і хваробы сучаснай цывілізацыі — гэта тэмы дыскусій з лекарам.

Усе чакалі самай цікавай экскурсіі ў Белавежу. Па дарозе наведалі вайсковую часць, дзе мелі нагоду ўбачыць сапраўднае вайсковае ўзбраенне, пазнаёміцца з жыццём жаўнераў. Былі і такія, каго захапіла прафесія вайскоўца. Аднак, усе спяшаліся ў Белавежу. Некаторыя першы раз наведалі сталіцу Белавежскай пушчы. Прыродазнаўчы музей, шпацыр па запаведніку, старэнькія хаткі на ўскраіне лесу і каралеўскія дубы — гэта галоўныя атракцыёны выезду. Экскурсія па шляху „Зубровыя рэбры” і наведанне запаведніка былі займальнымі. Зубры, зуброні, сарны і дзікі — такую дзіўную сустрэлі ў запаведніку. Дзень закончыўся вогнішчам у Пагарэльцах. Смачнымі былі гарачыя каўбаскі і напоі.

У апошні дзень — 30 студзеня — адбыўся чарговы мастацкі конкурс, звязаны з экскурсіяй у Белавежскую пушчу, і баль-маскарад. Пасля ўсе ездзілі на санках у Старыну, дзе пяклі каўбаскі і гулялі па лесе. Сустрэчы закончыліся падвядзеннем вынікаў конкурсаў і ўручэннем узнагарод. Вучні мелі надзею, што гэта не апошні іх адпачынак у час зімовых канікул.

**Аляксей Мароз**

# Дзе ты будзеш, мая восень жыцця?

Праязджаючы цераз вёску Кожына, што на Бельшчыне, нельга не заўважыць вялікага муру, з-за якога выглядаюць дахі нейкіх будынкаў. Вось за гэтым мурам ужо восенню гэтага года будуць жыць старыя людзі. Праваслаўны кленіцкі прыход пачаў пабудову Дома міласэрнасці ў Кожыне, які павядуць манашкі.

Кожына — вёска, якіх многа на Беласточчыне. Дажываюць тут старыя людзі. Маладыя павыязджалі ў горад шукаць лягчэйшага хлеба. Пасярэдзіне сяла, побач невялікага магазіна, стаяла калісьці школа. З 1956 да 1985 года вучыліся ў ёй мясцовыя дзеці. Калі вучняў стала зусім мала, яе закрылі. Пляц вакол школы абгарадзілі высокім мураваным плотам, у будынку паўстаўлялі цяжкія жалезныя дзверы і закратавалі вокны. Такім чынам у школьным будынку размясцілася турма. Існавала яна тры гады, да канца 1989 года. Затым аб'ект пераняла Гмінная ўправа ў Бельску-Падляшскім. Да 1996 года будынкі пуставалі. Разбураліся яны пад уздзеяннем часу і... чалавечай рукі. Многія прапановы добраўпарадкаваць аб'ект не сустрэліся з прыхільнасцю жыхароў вёскі.

У канцы 1995 года праваслаўны кленіцкі прыход звярнуўся ў Гмінную ўправу ў Бельску-Падляшскім з просьбай перадаць ім будынкі на дабрачынныя мэты. Жыхары Кожына да гэтай прапановы паставіліся прыхільна. Настаяцель прыхода айцец Аляксандр Высоцкі ўзяў на сябе абавязак заснаваць дом састарэлых.

— Цішыня, спакой, свежае паветра і людзі, якія гавораць на сваёй роднай мове — гэта цудоўныя ўмовы для таго, каб дажыць тут годна свой век, — кажа айцец Аляксандр. — Старэйшаму чалавеку не трэба ўжо вялікай цывілізацыі. Дом, страва, спакой, доступ да Божага слова — гэтага яму дастаткова.

Айцу Аляксандру пішуць праваслаўныя з розных куткоў Польшчы. Яны мараць аб тым, каб між іншым, „дожить среди своих людей и сложить свои кости среди своего народа”. Тут у Кожыне будзе створана ім такая магчымасць. Ужо цяпер, калі гэты дом яшчэ ствараецца, ёсць людзі, якія прысылаюць грашовыя ахвяраванні, каб толькі мець магчымасць дажываць на роднай зямлі. А ўмовы жыцця будуць даволі добрыя. Пакоі двухмесныя і некалькі аднамесных. У кожным памяшканні туалет і ванная. Пенсіянерамі будуць займацца сёстры міласэрнасці — манашкі. Ужо выказалі сваё жаданне стаць жыхарамі гэтага дома праваслаўны свяшчэннік і жанчына, якая вельмі добра чытае на старажытнаславянскай мове. Жыццё тут нічым не будзе розніцца ад жыцця ў іншых такіх установах, а дадаткова яшчэ можна будзе выслухаць штодзённую малітву ранішай і вечарам, пайсці ў капліцу памаліцца.

Тэхнічны план пабудовы дома распрацаваны вельмі шырока. Паколькі фінансавыя магчымасці невялікія, пабудова абмежавана да неабходнага мінімуму, які дазволіць ужо восенню 1998 года прыняць першых пенсіянераў. На працягу года зроблена многа: пабудавана капліца, у якой ужо адбываюцца службы, дабудаваны цэлы паверх, устаўлены новыя дзверы і вокны. Нельга тут пералічыць усё, што зроблена і тое, над чым яшчэ трэба працаваць.

Дзякуючы айцу Аляксандру Высоцкаму, праваслаўнаму брацтву і многім людзям добрай волі, словы, якія прапаведуе Евангелле, здзяйсняюцца. Вялікае вам дзякуй за гэта!

**Галіна Аўсянюк**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Запрашэнне

Бацькоўскі камітэт і навучэнцы беларускіх аддзелаў Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку запрашаюць усіх ахвотных паглядзець пастаноўку „Масленіца” на матывах беларускіх запусных абрадаў.

Прэм'ера ў выкананні дзетак, бацькоў і настаўніц адбудзецца ў суботу 28 лютага г.г. у глядзельнай зале „SPODKI”, што па вул. Св. Роха 14 у Беластоку. Пачатак а 15[00] гадзіне.




# Сучасная беларуская паэзія

Пад канец мінулага года ў Мінску выйшла друкам незвычайная кніга паэзіі — *Галасы вёснаў**. Складаецца на яе падборка вершаў трыццаці пяці сучасных беларускіх паэтаў. Выданне гэтае, што характэрнае ўсім кнігам выдадзеным на абшары былога СССР, камусьці рэкамендуецца. *Галасы вёснаў* рэкамендуюцца для старэйшага школьнага ўзросту.

Незвычайнасць кнігі заключаецца перш за ўсё ў тым факце, што сярод аўтараў апынулася паэтка з Бельска-Падляшскага Надзея Артымовіч. Гэта той нешматлікі выпадак, калі дзяржаўнае выдавецтва ў Мінску заўважыла ў галіне беларускага прыгожага пісьменства прысутнасць замежжа — як бы яго ні называць, блізкім ці далёкім. У зборнік уключаны дзевяць вершаў паэткі, большасць якіх узятая з кніжачкі *Роздумы*. У карысць укладальнікаў зборніка *Галасы вёснаў* трэба ўлічыць і тую акалічнасць, што іхні выбар невыпадковы — творчасць Н. Артымовіч залічаецца ў нас да самых каштоўных здабыткаў беларускага пісьменства ў Польшчы. У прадмове ўкладальнік заўважае таксама факт прысутнасці ў Польшчы літаратурнага руху ў выглядзе „Белавежы”, называючы нашых паэтаў: Яна Чыквіна, Віктара Шведа і Міру Лукшу. У той жа прадмове прыводзіцца таксама абшырны фрагмент з кнігі Я. Чыквіна *Блізкія і далёкія*, прысвечаны творчасці Н. Артымовіч.

**(ам)**

* *Галасы вёснаў. Сучасная беларуская паэзія*, Выдавецтва „Полымя”, Мінск 1997.

# Босы Шакал і злодзей цноты

*Ганіце, дзяўчаткі, вы тых жаніхоў,*
*Што ў чарках не знаюць прамашкі.*
*Ніл Гілевіч*

**Босы Шакал жыве ў мястэчку на Беласточчыне, славутым колькасцю захворванняў СНІДам. Але мы не пра гэта. Мы пра музыку і каханне.**

Босы Шакал займаўся музыкай. Фірму заснаваў калямузычную, са сваім сатанінска-металёвым знакам. А сам ён нармалёвы, усё бярэ на здаровы розум. Рок-музыку кахае, але звычайна, без экстазу. Бо і зарабіць на ёй крыху можна. Давялося трошкі папрацаваць над іміджам — прычоскай, адзеннем... І чэрап сабе Роберт-Босы Шакал вытатуіраваў на левым, сардэчным плячы.

З канцэртнай фірмы грошай не было зашмат, ды і тое ішло

**na przelew**

хоць сам Босы Шакал не піў зашмат і не п'е, дбае пра здароўе. Але трэба мець кантакт з жывымі рокменамі, і трымацца рэпрэзэнтацыйна. На канцэртныя залы трэба, на фанатак. Паненак каля Шакала круцілася многа, розныя, і патлатыя, і астрыжаныя амаль да крыві. Але меў Босы Шакал

**пармальную сястру**

Рэню, якая працавала ў цырульні. Не прыгажэйшую за сябе, а нават падобную. Рэня жыла спакойна на другім паверсе бацькоўскае вілы, да захапленняў брата адносілася памяркоўна, на канцэрты трапляла рэдка, бо там круціўся народ зусім неадпаведны для яе. Перагледзела ўсіх больш парадачных хлопцаў у мястэчку, але ні адзін ёй не спадабаўся. І так у цноце захавалася да сваіх дваццаці пяці гадоў. Нават псіхадэлічная музыка не даводзіла магчымых кавалераў да таго, каб захапіцца яе прыгожымі вачыма. А татка не быў аж такі багаты, каб хто захацеў купіць „ката ў мяшку".

Але вось адзіная сястра Босага Шакала закахалася. З узаемнасцю. У раскосым прышчатым рокмене, маладзейшым на чатыры гады. Пасяліўся кастрабаты маладзён на „горцы" разам з каханай, абяцаўшы Старому Шакалу (як яго чулліва называлі дзеці), што возьме шлюб у касцёле. Але ўсё ж Старая Шакаліха не магла сцярпець вечна непрытомнага нямыцка Джэксана на выпастаўленых паркетах. Рэня сабрала свае „цохі" падпахі, узяла Джэксана і пайшлі жыць у блёк да бабулі, а Шакаліху-Бабку адправілі да сына. І так вось была цнатлівая Рэня ўвайшла ў дарослае жыццё поўнае музыкі і кахання.

Джэксан

**хаты не пільнаваўся**

калі гарэлкі дома не было. Рэня выходзіла на працу з болем, усё з думкай, што сёння начаўпе каханы. Добра, што хоць быў ён больш-менш пад вокам ейнага брата, у клубе або на канцэрце. „Дынксуе, што зробіш, — усміхаўся Роберт сястры, — а хто гэтага не робіць. Я вось не п'ю столькі, бо ўжо не ў змозе. Хачу жыць як чалавек. І з яго, Рэня, будуць людзі. Файны ён госць, і, было не было, швагер. Хто ж іншы ўкраў бы тваю цноту? А цяпер хай вышуміцца".

Хоць Шакал пасмейваўся з „цнатлівае" сястры, але ж кахаў яе някідкую асобу. Ад малое быў яе абаронцам. Ды і падобныя яны як дзве кроплі вады, ды мужчыну хопіць каб быў крыху прыгажэйшы ад д'ябла...

Рэні на працу пазваніла ўсхваляваная суседка. Досыць мела дагэтуль цярпення: канчайце з „імпрэзамі"! У Рэнінай кватэры ў белы дзень такі скандал, такі роў, што вытрымаць немагчыма! Пакінула дзяўчына кліентку з незакончанай завіўкай на галаве і паперла дадому. Гармідар чуўся ўжо два блёкі далей.

Адчыніла ёй дзверы нейкая дзяўчына. Іх там было болей, паненак, і хлапцоў, а рэй вадзіў Джэксан.

— Ты што за адна? — запыталася дзеўка, утаропіўшы ў Рэню малапрытомныя вочы.

— Я тут гаспадыня. Дзе мой Джэксан? Абступілі яе наўкола.

— Зусім як чэрці ў дыме, усё мне перад вачамі памуцілася. З тае пары ў мяне нервы, — кажа Рэня. — Мне аж слаба стала.

Рэню падхапілі, пасадзілі на канапу. Хтосьці лінуў на твар віном.

— Гэта што за жарты, Джэксан? — рагатнулі дзяўчаты. — Гэтае памяло — твая любоў? А ў трыбушку пэўна ўжо маленькі рокменчык?

— Гэта мая траурадная сястра, з Харошчы ўцякла, хацела забавіцца з вар'ятамі, то мае. Любіць вострыя сцэны. Можа, зробім ёй нейкае прадстаўленне?..

Рэня без слова выйшла ў другі пакой. Упала на тапчан, уціснула падушку на галаву, каб не чулі, як раве. Плакала доўга, аж заснула. Ужо было цёмна, як праснулася. У другім пакоі сядзелі Джэксан і брат.

— Роберт наліў мне кавы. Узяў у далоні мой твар, пытаўся, што здарылася. Я і слова не магла сказаць. Гэты паганец Джэксан толькі пасміхаўся, — расказвае Рэня.

**— Ta dziwka**

chciala zepsuć nam zabawę. Так ён сказаў, а пасля дадаў: „Chodź, porozmawiamy".

Пайшлі ў другі пакой.

— Як можаш сцягваць у маю хату гэту навалач! І паводзіш сябе як свінні! Выбірай — або гэтыя свінні, або я!

— Я табе дам „свіней"! Гэта — маё жыццё! І музыка! Я кахаю музыку! узвіўся Джэксан.

— Калі ласка! Кахай сваю музыку і сваіх валацужак! Але не лжы майму брату! Ён з табою палічыцца!

— Ён?! Калі б нават я цябе забіў, ён слова не скажа. Бо не мае ў гэтым інтарэсу. Вось я зараз цябе выкіну з балкона, а ён мне паверыць, што ты, вар'ятка, сама выкінулася! Або задушу цябе голымі рукамі.

Рэня спачатку хрыпела, пасля палянцелі ёй перад вачыма чорныя кругі і страціла прытомнасць. Не памятае, колькі праляжала. Калі расплюшчыла вочы, заўважыла з-пад дзвярэй жоўтую пляму ад святла. Пачула братаў голас:

— Што ты ёй зрабіў? Ты яе пакрыўдзіў?!

— Ат,

**памяў крыху.**

Прытвараецца. *Ляскі* любяць, каб іх крыху пацiскаць. Дарэчы, трэба ёй прамовіць да розуму. Хіба ж разумее, што я хачу жыць. А што я маю з ёю ў хаце? Толькі скандалы. А, даруй, па кілішку мы, то праўду-матку рэзаць можна... То ж сам ведаеш, Рэньку то часам мусіць чалавек газетай зверху накрыць, каб за дупу ўзяцца...

Рэня дапаўзла да другіх дзвярэй.

— Роберт... Вады... Доктара...

Босы Шакал страціў у той вечар сваю памяркоўнасць і цынізм. Перабіў рукі Джэксану, паламаў ногі, звалачыўшы са сходаў. Пакуль шукала яго паліцыя, сядзеў у Еўропе. Вярнуўся два месяцы таму. Прывёз сёе-тое сястры, купіў новы *спиэнт*. Мае грошы і новыя ідэі. А грошы думае ўкласці ў новы інтарэс. Будзе помнікі ставіць памерлым, даіць з граша жывых. А чэрап на ягоным плячы падыходзіць да новай прафесіі.

**Міра Лукша**

# Лепш няхай мяне чэрці мэнчаць!

**Адгалоскі**

— Небяспечна „апісваць". Нават пад псеўданімам. А і пад крыптанімам не менш, — канстатуе Вандал Арлянскі ў 3 нумары „Нівы" ад 18 студзеня 1998 г. у допісе „Пішы к чорту!"

Далей прыкмячае: „...Найбольш небяспечна мясцоваму карэспандэнту. Бо піша пра тое, што пад бокам! А нікому ж не дагодзіш! А праўда, хоць бы была найбольш аб'ектыўная, можа быць інтэрпрэтаваная па-рознаму, бо ж інтэрпрэтацыя — адзін суб'ектывізм (...). Кожны мае сваю праўду і за яе стаіць".

Чытаючы публікацыю Вандала Арлянскага, адчуваю сябе, быццам бы я быў героем гэтага допісу. І, раптам, перад вачыма ўзнікаюць мне вобразы маіх сяброў-журналістаў — Міхася Хмялеўскага і Веры Валкавыцкай, якія дапамаглі мне паставіць першы крок на старонках „Нівы" ў якасці карэспандэнта. Арганізаваныя рэдакцыяй конкурсы на карэспандэнта года, пасля супольныя з'езды і змаганне за вядучае месца ў „авангардзе". Колькі нас тады было, такіх як я, карэспандэнтаў? Сорак? Мо паўсотні? З найдалейшых мясцін паступалі весткі ў рэдакцыю. Пісалі: настаўнікі, земляробы, прадстаўнікі пошты, чыгуначнікі, вучні...

Тыднёвік расцвітаў, а мы цешыліся яго плёнам!

Аднак бывалі і сумныя хвіліны. Вось, хоць бы прыклад паказаны Вандалам Арлянскім, пра Веру Валкавыцкую. Пра яе цяганне па судах. І за што, здаецца? За адзін неразважны крок карэспандэнта! „Апісаў" адзін з „нашых" хлопцаў гісторыю са сваёй ваколіцы не „інтэрпрэтуючы фактаў", як гэта Вандал Арлянскі называе. Нехта пачуўся абражаным. Справа трапіла ў суд. А што Вера Валкавыцкая не паказала прозвішча аўтара публікацыі (яна ў той час адказвала за працу з карэспандэнтамі), яе амаль чатыры гады цягалі за тое па судах.

Чаму паказваю гэты прыклад? Рабдю таму, каб перасцерагчы пішучых у „Ніву" і тых, хто надумаецца папоўніць нашу сям'ю карэспандэнтаў: давайце пісаць прадумана і разважна. Правярайма факты. Найменшую дэталь! Каб камар носа не сунуў, — як кажа прымаўка. Бо *„Ніва" ест почытнэ часопісмо!* — як канстатуе аўтар допісу за панам В. з М. Рэпутацыя „Нівы" — гэта наша рэпутацыя, бо мы — яе публіцысты!

Аўтар прыкмячае, што найбольш небяспечным з'яўляецца для мясцовага карэспандэнта „апісванне". Вельмі трапная заўвага! Пакажу гэта на сваім прыкладзе.

Па-рознаму адносіліся да мяне мае аднавяскоўцы, як і калегі на рабоце. Адны падсмейваліся: „Гляньце, хлопцы, „Ніўка" ідзе!" Іншыя, крывым вокам паглядаючы, кідалі проста: „Абыдзі смурод бокам, бо зараз у „Ніву" шмараваць будзе!" Аднак былі і такія, што за парадай да мяне прыходзілі. Прашэнне нейкае ў начальства напісаць прасілі. І так мы прывыклі ўжо да сябе!

Усё адмянілася некалькі гадоў таму, калі я „наступіў" аднаму начальніку дзяржаўнай чыгункі на малы палец левай нагі. Начальнік пачуўся „вельцэ ображоным" і давай мне „свінствы" рабіць. Пачалася між намі вайна!

Мне, як шматгадоваму чыгуначніку і публіцысту, сталі вядомымі многія паталагічныя з'явы і хібы. Некаторыя з іх я прыкмячаў толькі, іншыя, больш сур'ёзныя, паказваў у сваіх публікацыях у „Ніве". Хачу прытым адзначыць, што гэта не была мая асабістая справа, а праблемы тычыліся многіх працаўнікоў чыгункі і ўсяго прадпрыемства. Таму лічу яе грамадскай! (Нават друкавалася на тую тэму мая публікацыя „За грамадскую справу трэба змагацца", „Ніва" н-р 26 ад 29 чэрвеня 1997 г.).

Ужо пяты год ваюю! Што з таго выйдзе, цяжка сказаць. Адно ў тым пэўнае — не дам спакойна жыць гультаям, якія набіваюць сабе кішэні з грамадскай (чыгуначнай) касы. А тое, што паказваю праўдзівыя факты, не дае магчымасці маім начальнікам закрыць мне рот!

Таму лепш няхай мяне чэрці мэнчаць, на пацеху маім праціўнікам, калі б я меў адрачыся ад змагання за праўду і справядлівасць! Бо я іхні Рыцар!

**Уладзімір Сідарук**

# „Рольмак" — вядомы на ўсходніх рынках

Зараз Сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня (РСП) „Рольмак" у Макаўцы (Нарваўская гміна) з'яўляецца адным з найбуйнейшых сельскагаспадарчых вытворцаў у нашым рэгіёне. У пяці прадпрыемствах гэтай фірмы, якая займаецца, між іншым, сельскагаспадарчай прадукцыяй ды харчоваапрацоўчай прамысловасцю, працуе 340 чалавек.

РСП мае курыную ферму ў Васьках і заканчвае пабудову халадзільні і фабрыкі па перапрацоўцы мяса, абсталяванай паводле прынцыпаў навейшай тэхналогіі.

Спулдзельня гаспадарыць на 2 200 гектарах у ваколіцы Макаўкі, Кленікаў, Ракавічаў і Шастакова. Засявае іх збожжавымі і струковымі культурамі, а таксама садзіць цукровыя ды кармавыя буракі. Апрача таго кааператыў займаецца жывёлагадоўляй — гадуе кароў, свіней і курэй.

Фірма выпускае на рынак вяндліны (шэсць тон у дзень), якія прадае ва ўласных крамах у Нарве, Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім і Беластоку, а нават у Варшаве. Неўзабаве адкрыюць краму ў Кляшчэлях. Вышэйзгаданыя харчовыя прадукты высылаюць на экспарт у Мінск, Маскву і ў далёкую Сібір — у горад Екацерынбург (былы Свярдлоўск).

Варта дадаць, што „Рольмак" — гэта фірма з 40-гадовым вопытам. Ад чатырнаццаці гадоў праце пад старшынствам Віктара Рэента, ураджэнца Старога Ляўкова, што ў суседняй Нараўчанскай гміне.

**(гай)**

# Парнасік

## Міхал Мінцэвіч

Міхал Мінцэвіч —
Ён амаль Міцкевіч,
Толькі піша прозай
Багатай і прыгожай.
Публіцыстыка яго — на пяцёрку,
А нават шасцёрку!
І не так лёгка яе ацаніць;
Будзем уважна чытаць і любіць
Матэрыялы яго на розныя тэмы.
Парушае ён балючыя праблемы,
Жулікаў раскрывае,
А пакрыўджаных бароніць
і паважае.
Ён і гісторык, і мастак —
Гэта ад зорак добры і прарочы знак!
Па няпраўдзе б'е бічом
І не сябрує з ліхачом.
Ён адкрывае архівы,
І як жылі, раслі і растуць
нашы нівы.
Піша прыгожа пра наша прошлае,
Што нам здаецца травою зарослае.
Гісторыя — яго любімы занятак;
У гэтай галіне вядзе сціплы парадак.
Падае даты ўзводу нашых святынь,
цэркваў
Дакладна, без лішніх
слоў-феерверкаў.
Піша пра ўсё, што нас цікавіць,
Павучае нас і не бавіць.
Гэта самародны талент
і свой чалавек,
Пра якіх цяжка ў наш буйны век.
Орля можа ім ганарыцца,
А мы на яго матэрыялы
з пашанай дзівіцца,
Чытаць іх, углыбляцца, вучыцца,
Каб дарагому, роднаму кутку
сэрцам адкрыцца.
Міхал Мінцэвіч мае стыль
усебаковы,
Як пад лінейку ўкладае сюжэт
і словы;
Можа прыгожа напісаць
пра школу,
Яе праблемы, радасці,
урокі роднай мовы.
Гісторыю вёскі напіша,
як калісьці жыла,
І свой век пражыла,
І як сёння ўмірае: усе маладыя —
гайда ў горад,
Таму, што кусок роднай зямлі
мала каму дораг.
Не пабаіцца напісаць праўду
пра хулігана,
У якога сумленне і гонар д'яблу
праданы.
І таму ў яго праўда —
найдаражэйшая якасць,
І чытачам „Нівы" прыносіць
задавальненне і радасць.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, дарагі, паслухай, што мне прыснілася. Ды калі? У навагоднюю ноч! Уваходжу я ў будынак, дзе працую. У нас там некалькі пакояў, але я працаўнікоў не бачу. Проста нікога няма і я адразу іду ў свой пакой. Спынілася я пры ўваходзе, бо выгляд пакоя, у якім я працую, быў іншы. А менавіта, ліналеум на падлозе паложаны, новы, бліскучы — светла-шэры. Сцены і столь памаляваны таксама ў цёмна-шэры, падобны да падлогі ўзор. Супрацоўнікаў не відаць, але бачу, адзін хлопец ляжыць на падлозе. Я кажу: „Чаму ж ты тут, на падлозе, лёг спаць?! А ён зусім спакойна кажа: „Нічога..." І канец сну.

А вось у сённяшнюю ноч прысніўся зноў мне сон, ці не з работай ён будзе звязаны.

Я на рабоце. Хтосьці паведамляе мяне, што мой бацька моцна хворы (даўно ўжо не жыве). Мы з сяброўкай з працы едзем на аўтобусе ў квартал горада, дзе я жыву (там мае быць хворы бацька). Выйшлі мы на прыпынак, дзе я заўсёды выходжу, вяртаючыся дадому. Ідзем і я бачу на пляцы, які ў сапраўднасці пусты, стаіць домік спулдзельні. Дзверы адчынены і вось што мы з сяброўкай бачым: сядзіць мой бацька ў бараняй камізэльцы, у шапцы, на зэдліку, ды рэжа бульбу на кавалкі жывёле. Я кажу сяброўцы: „Ну, не так, бадай, дрэнна з ім, калі яшчэ работай заняўся!" І мы пайшлі па дарозе далей.

**Вера**

Вера! Я думаю, што ў цябе на рабоце адбудуцца нейкія змены. За гэта гаворыць твой адноўлены, зменены пакой з першага сну. Той хлопец, што спаў на падлозе — быццам непатрэбны дадатак на нейкай сюррэалістычнай карціне. Што датычыцца другога сну, дык, здаецца мне, ты перажывеш нейкія затрудненні на працы. Бачыш жа, табе паведамілі, што твой бацька хворы, менавіта на працу. Мяркую, аднак, што нічога кепскага з гэтага не вынікне, паколькі высветлілася, што бацька цалкам някепска сябе адчувае.

**Астрон**

# Тамаш, Ганна і кума

Тамаш з Ганнай хадзілі з сабою больш за пяць гадоў. Пабраліся шлюбам яшчэ пры санацыі і былі прыкладнай парай ва ўсёй вёсцы. У іх хаце ніхто і ніколі не пачуў не то што сваркі, але нават павышанага тону ў час размовы паміж імі. Людзі гаварылі: „Вось шчаслівая пара!"

Нарадзілася ў іх дачушка і яны ўзялі суседку за куму. Потым нарадзіўся ім сынок. Тамаша ў 1940 годзе забралі ў Чырвоную Армію, але калі немцы напалі на Савецкі Саюз, ён паспеў з-пад Асаўца вярнуцца дамоў і працягваць далей шчаслівае сямейнае жыццё.

А ў іхняй кумы таксама нарадзілася двое дзетак. Але ў кумы шчасце не доўга гасцявала. Пасля вызвалення нашай зямлі ад нямецкіх захопнікаў памёр ейны муж і яна засталася ўдавою з двума малымі дзяцьмі. Жыла яна блізка Тамаша і Ганны, сваіх кумоў. Яны часта дапамагалі ёй у гаспадарцы. Нават сама Ганна не раз казала: „Ідзі дапамажы куме. Ёй жа цяжка адной". Вядома, тады было многа самагонкі і кума часценька частавала свайго кума. У выніку гэтага частавання, не толькі гарэлкай, вядома, Тамаш пакінуў сваю жонку і стаў жыць з кумою. Паколькі жылі яны па-суседску, Ганна не раз куме выбівала вокны, а бабскія сваркі былі чутны кожны дзень.

Тамаш з кумою і дзяцьмі вымушаны былі пакінуць гаспадарку і хату ды выехаць у горад. Пасяліліся ў Быдгашчы і там працавалі. Дзяцей кумы Тамаш стаў лічыць сваімі, а яны прызналі яго за бацьку.

Калі Тамаш з кумою адышлі на заслужаны адпачынак (на пенсію, значыцца), задумалі пакінуць горад і вярнуцца на вёску. Аднак вяртацца не было дзе, бо кума прадала сваю хату, дзяржаве здала зямлю. У дадатак у вёсцы жыве жонка Тамаша, якая зноў магла б пачаць скандаліць. Купілі яны хату ў суседняй вёсцы, адрамантавалі яе і там шчасліва пражывалі. Наведвалі іх дзеці кумы, прыязджалі вельмі часта, бо перабраліся з Быдгашчы ў Беласток.

Тамаш захварэў і хутка памёр. Кума пахавала як належыць свайго каханка, але вельмі хутка забыла пра яго.

Цяпер ні жонка, ні каханка не прыходзяць на ягоную магілу. Ніколі яшчэ святар не маліўся над ёю. Вось якія цяпер людзі сталі, як хутка забываюць пра чалавека, які даглядаў дзяцей, калі былі маленькімі, хаця і не былі ягонымі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 2. рошчына на гарэлку, 4. паўднёваамерыканская птушка сямейства гусіных (*Coscoroba coscoroba*), 6. горад у Бельгіі, на Маасе, 7. эксцэнтрычны танец з рухамі бёдраў, 9. трапічны вуж-душыцель, які жыве на дрэвах, 11. прыбор для вымярэння вонкавага ціску, 12. стараіндыйскі эпас пра подзвігі царэвіча Рамы, 13. паўднёваамерыканская жаба даўжынёю да 25 см, 15. энергічны жэст рукі, 17. сыравіна для ганчарных вырабаў, 18. навуковая канферэнцыя, 19. аўтамабіль з таксометрам.

**Вертыкальна:** 1. доўгая раслінная або жывёльная тканка, 2. шкляныя каляровыя пацеркі для расшыўкі адзення, 3. штучнае спыненне цяжарнасці, 4. пагадненне на аснове ўзаемных уступак, 5. заалатрыя, 6. паўднёваамерыканскі страўс, 8. аргенцінскі танец, 9. абрэвіятура стварэння Сакрата Яновіча з 1990 г., 10. паўднёваамерыканскі папугай, 14. мясцовы дыялект, 16. надзяваецца каню на шыю, 17. дзяржава з Порт-о-Прэнс.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 2 нумара**

**Гарызантальна:** цвік, Сірыя, ахінса, Ішым, манах, Акоста, Фарахруд, полаг, Касцюшка, Іераваам, вярба, Дружынін, Рэнуар, чапля, Алст, папуас, сасна, Агра.

**Вертыкальна:** кімано, жырафа, Вашчанка, камар, сінод, асетр, Хагівара, Кунцэвіч, пліс, Лурд, Ашур, Сара, Амрытсар, Яначак, Белона, Дэдал, Дулут, ураса.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Некалькі слоў пра тэлебачанне

Гэтая занатоўка пэўна не дасць ніякіх выследкаў і ніхто не адгукнецца на мой голас, хаця думаю, што чытачы згодзяцца са мною. Напішу, каб лягчэй было на сэрцы. А справа ў тым, што ў першай праграме тэлебачання найлепшыя і сапраўды каштоўныя фільмы паказваюцца вельмі позна; відаць з такою мэтай, каб найменш гледачоў магло іх пабачыць. Нядаўна фільм „Троцкі" быў паказаны апоўначы, так як і 1 лютага фільм „Сталінград". Людзі на вёсцы не будуць так доўга чакаць нават „залатога" фільма і марнаваць дзеля гэтага ноч. А разбоі і прастытуцыю паказваюць у найзручнейшы для гледача час. Я пратэстую супраць такіх дзеянняў нашага тэлебачання, якому трэба „салёна" плаціць.

**Мікалай Панфілюк**



У гайнаўскіх галерэях

# Выстаўка плакатаў

10 лютага гэтага года ў міні-галерэі ў Белліцэі ў Гайнаўцы па вул. Пілсудскага 3 адкрылі цікавую выстаўку пад загалоўкам „Жыве ПНР". Глядзець яе можна да 10 сакавіка г.г.

# Пушча ў галерэі

Ад 15 лютага г.г. у галерэі „БМ" Музея помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры ў Гайнаўцы па вул. 3 Мая 42 можна паглядзець фотавыстаўку „Краявіды Белавежскай пушчы" Юркі Вуйціка, настаўніка мясцовага тэхнікума. Выстаўку можна наведаць штодзень у гадзінах работы бюро музея.

**(гай)**


**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2 zł, a kwartalnie — 26 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Constans

Увесь дзень
Канстанцін
Канстатуе.
Факты,
Як рэч
не плоская,
Кубатуру
маюць і цень.
Нават рэха
Ад іх
адбіваецца.
Ды Канстанціну
Той факт
так маецца,
Як стан
Каменя на фотаздымку
Ў чорна-белую палоску.
Ды гэта не грэх.
Бо кожны носіць
Свой крыж,
кажух або мех.
А з фактам рыфмуецца
Тое, што каму муляе.
А дакучаць
Канстанціну —
нетактычна.

## Галоўны

Хацеў Кроцік стаць начальнікам,
Ды ў кабінет ключа няма.
Не дала яго яму пані Гжыбкова:
„Хай од тэго начэльнэго Буг ухова!"

**Вандал Арлянскі**

## Сентэнцыі Барыса Руско

* Кроў на сумленні не стыне.
* Наскольк і вакна, настолькі свету.
* У сядло мінулага бесперапынна садзіцца будучыня.
* Не памірай, пакуль слухаюць цябе.
* Новы год настолькі цешыць, што і засмучае.
* Таленту не выкуеш з камяка золата.
* Гэты і той свет — сіямскія браты, зрослыя пупавінай смерці.
* Той трапна дзейнічае, хто разважна думае.
* Мяцеліца запэўнівае адно — вымазаныя дарогі.
* У збытку кахання можна патануць.



## О часы, о норавы!

Макатразмы

Пасля сумнаслыннага выступлення ганаровага старшыні сябравіцкай управы, калі ён, незадаволены адведзенай яму роляю, абвінаваціў самаадданых упраўленцаў у грэхападзенні (дзеляць маёмасць без яго), зрокся гонару і ўзначаліў міколасяргееву раскольніцкую фронду, управа закіпела справядлівым гневам. І ты, Брут! Усё табе мала?! Хочаш усю ўладу пераняць у свае заграбушчыя лапы!

І сябравіты ўспомнілі гнуснага рымскага змоўніка Катыліну, які ў карысьлівых мэтах строіў падкопы пад фундамент рымскага ладу, і згодным хорам грымнулі:

— Лапы прэч ад управы!

Тут і выступіў Цыцэранюк. Прыгадаўшы карані, ён пакарыстаўся тэкстам славутага консула, што выратаваў рымскую рэспубліку ад Катыліны. З крыніцы тэарэтыка філасофскай рыторыкі выкінуў толькі прозвішча старажытнага пярэкрута, падмяніўшы яго мянушкай нашага адступніка. А каб больш было пераканаўча, і пачаў сваю арацыю крылатым словам продка:

— *Quo usque tandem abutere, Barsina, patientia nostra?*

І пераклаў: Калі ж, урэшце, перастанеш ты, Барсіна, злоўжываць нашай цярплівасцю?!

Далей вёў наступ на мове матчынай. Да якой пары ты, ачмураны фурыяй, будзеш здзекавацца з нас?! Дзе мяжа неўтаймаванай дзёрзкасці тваіх выступленняў? — заганяў у кут злоснага паклёпніка, падмацоўваючы латынь сакавітым сябравіцкім матам.

— *Cui bono? Cui prodest?* — закончыў фундаментальным пытаннем сваю першую прамову супраць Барсіны Цыцэранюк. І сябравіты паўтарылі ягонае пытанне:

— Каму выгадна? Хто на гэтым выйграе?

Не выпадкова сябравіты ўспомнілі Катыліну. Быў ён адыёзным стрыжнем у працэсе распаду, што ў той час тачыў рымскую рэспубліку. Падобнае становішча склалася і ў нашым энклаве. Дык і палымянае слова Цыцэранюка згуляла роўную Цыцэрону ролю. Сябравіцкае *consultum ultimum* прызначыла змоўнікаў на мыла.

Ці Цыцэранок таксама давядзе сябравітаў да згоды і выратуе энклаў ад загубы? А мо пачалася ўжо *bellum omnium contra omnes?* Вайна ўсіх супраць усіх?

*O tempora, o mores!*

**Isidoris Macatioris**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У бары:

— Вы не далілі дапаўна маёй чаркі, — наведвальнік звяртае ўвагу барменцы.

— Прашу прабачэння, але я блізарукая...

— А ці не здарылася вам пераліць?

— Я ж яшчэ не такая сляпая!

* * *

— Сёння мы з сябрам пацягнулі жэрабя, — гаворыць афіцыянтцы студэнт, — каму з нас ісці ў ваш рэстаран на абед.

— І вы выйгралі?!

— Не, я прайграў!

* * *

— Вітаю! Вельмі я рада, што вы сёння наведалі наш рэстаран: шклянку чаю ці чарку каньяку?

— Няхай будзе шклянка каньяку.

* * *

— Афіцыянт! Ці ваш аркестр іграе па заказе?

— Вядома.

— Тады скажыце, хай зайграе ў даміно.

* * *

— У маім супе быў камень, — жаліцца спажывец.

— А ў якім жа артыкуле звода законаў напісана, — адказвае афіцыянтка, — што ў супе могуць быць толькі валасы і мухі?!

* * *

Спажывец афіцыянту:

— З вялікай радасцю адзначаю, што ў вашым рэстаране не павысілася цана ячні.

— Бо мы, бачыце, былі дальнабачныя і паўгода таму, калі яйкі былі значна таннейшыя, купілі большую іх колькасць.

* * *

У прывакзальным рэстаране выпіваюць тры мужчыны. Калі аб'явілі пра адпраўленне цягніка, яны ўтраіх кінуліся на перон. Дваім удалося ўскочыць на хаду, а трэці не ўспеў.

— Ну і давяла гарэлачка. Адсталі ад сяброў! — засмяяўся чыгуначнік.

— Гэта яшчэ глупства, бо ехаць меў я, а яны толькі мяне праводзілі.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Мне 24 гады. Людзі кажуць, што мне замуж пара. Не таму, аднак, яны так думаюць, што я ўжо старая, а таму, што мы са сваім хлопцам „ходзім" аж чатыры гады. Калі не цяпер, кажуць, то ўсё прапала. Пераходзіце каханне.

Я так падсмейвалася з іх, падсмейвалася, усё жартавала, што грошай яшчэ бацькі не назбіралі на вяселле, а цяпер вось бачу, што мо яны і мелі рацыю.

Мушу табе прызнацца, што ўжо ад нейкага часу я і сама падазраю, што мы сваё „перахадзілі". Я проста прывыкла да гэтага хлопца і ён мне здаецца амаль мужам. Нават бацькі нічога не маюць супроць, калі ён да мяне прыходзіць і застаецца нанач (у нашым доме для мяне адведзены цэлы паверх).

Я не слухала нікога, бо лічыла, што калі, як кажуць, зраблю кар'еру, а мой хлопец скончыць вышэйшую школу, тады сабе спакойна пажэнімся і будзем мець дзяцей. Ніякіх пагроз у гэтых аднosінах я не бачыла.

Бацькі перапісалі на мяне сваю прыватную краму, але я толькі часамі дапамагаю ім. Тавар давозіць бацька, а я яму раю, што трэба ўзяць, каб „пайшло". Паколькі мы прадаем модную вопратку, я стараюся быць у гадзіны пік, калі прыходзіць у краму шмат дзяўчат, якіх я ўмею, як ніхто, заахвоціць да пакупкі.

Адно скажу: і мой хлопец памагаў у краме, калі толькі мог. То прыбярэ, то заварыць каву, то нешта адрамантуе. Адчуваў сябе тут не тое, што гаспадаром, а добрым, можна сказаць, памочнікам.

Бацька сказаў аднак, што патрэбны нам памочнік пастаянны, і прыняў на працу 18-гадовага хлопца. Калі нашы прадаўшчыцы ўбачылі яго, то аж прыселі. Хлопец той вельмі прыгожы. Цёмны бландзін, блакітныя вочы, статны. Але найбольш зачароўвае ўсіх яго прамяністая ўсмешка, якой абдорвае ён прадаўніц, і клієнтак. І кожнай здаецца, што ён выбраў менавіта яе, бо ёй якраз усміхаецца.

Дзяўчаты, што працуюць у краме, ходзяць, як ачмурэлыя. Пачалі значна стараннeй апранацца, малявацца і штораз мяняць прычоскі. Усе хочуць падабацца гэтаму маладому, але працавітаму і спрытнаму хлопцу.

Я якраз стаяла каля кліенткі, якая мерала касцюм перад люстэркам, калі „малы" падышоў да мяне збоку і, гаворачы мне нешта на вуха, дакрануўся, быццам выпадкова, вуснамі да маёй шыі. Праз паўгадзіны ізноў, калі я была ў падобнай сітуацыі, ён падышоў да мяне і, схіліўшыся да вуха, праехаўся губамі па маёй шыі. Я прытварылася, што нічога не здарылася, хаця мяне прашыла токам. Адважны, падумала я толькі. Па-першае, ён ведае, што ў мяне ёсць хлопец, а па-другое, што я ўсё ж тут не працаўніца, а дачка ўласнікаў крамы. Во, глянь ты, і не баіцца, што вылеціць з працы!

Усю ноч саграваў мяне ўспамін аб гэтым нібы-пацалунку. Дзякуй Богу, што не было майго хлопца. Усё думала я і думала, а ў вачах стаяў той „малы"...

Назаўтра, калі я зайшла ў краму і ўбачыла яго, у сэрцы нешта кранулася. Я нават перапужалася самой сябе. Што гэта? Такі смаркач...

Так, я ўсё гэта ведаю надта добра, але „смаркач" цяпер ужо ад мяне практычна не адыходзіць. Хіба што ў краме ёсць мой нарачоны. І, як не дзіўна, хлопец малодшы за мяне на шэсць гадоў, падабаецца мне ўсё больш.

Хаджу цяпер, як непрытомная. Сама не ведаю, што рабіць, ці сказаць пра ўсё нарачонаму, але ж тады ён адразу парве са мной, ці пакінуць справу лёсу. Можа ж яшчэ гэты „малы" не такі цудоўны, як мне здавалася, і тады я застануся зусім без хлопца.

Але цягне мяне да яго страшна, і не ведаю, чым усё гэта скончыцца. Мо ты нешта параіш, Сэрцайка?

**Аля**

Аля! А што тут параіш... Мо і варта пайсці за голасам сэрца, але толькі тады, калі ты ўпэўнена, што кахаеш гэтага „малога". Узрост тут мо не мае значэння, але падумай, колькі часу пройдзе, пакуль ты яго вывучыш і навучыш жыць... А твой нарачоны, як ты яго называеш, раз — школу канчае, два — праверaны. Во адна бяда — прывыкла ты да яго і абы хлопец звонку можа задурыць табе галаву, дастаткова каб дакрануўся да цябе. А што было б, калі б ты была ўжо замужняя...

Прадумай усё. Сапсаваць тут справу можна лёгка.

**Сэрцайка**